ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№ 6 (2564)**

12 лютага 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.


***ЛЮДЗІ І ЛЁСЫ***



**Адна з многіх беларускіх вёсак, што загінулі ў выніку чарнобыльскай аварыі.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# «ЧАРНОБЫЛЬ УСІХ НАС ПАРАСКІДАЎ...»

**Хутка споўніцца дванаццаць год, як накрыла Беларусь сваімі чорнымі крыламі чарнобыльская навала. Кажуць, час гоіць любы боль. Можа, і так. Але бясследна нішто не праходзіць. Нярэдка на месцы колішніх ран на ўсё жыццё застаюцца жорсткія шрамы як няўмольны пастаянны напамін пра мінулае. Што гэта так, я зноў пераканалася, сустрэўшыся з жанчынамі, чарнобыльскімі перасяленкамі. Здавалася б, горшае засталося недзе там, у мінулым, жыццё зноў набыло нармальныя, мірныя рысы, але ж не, нічога не сцерлася з памяці, па-ранейшаму хвалюецца душа, і слёзы з'яўляюцца на вачах так хутка, нібы і не высыхалі ні на мінуту ўсе гэтыя дванаццаць год.**

## 1. РАСКАЗВАЕ ТАЦЦЯНА ГАМАНКОВА, НАСТАЎНІЦА МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ З ЧАЧЭРСКА:

— Ужо пяць год, як мы пасяліліся ў Мінску. Людзі кажуць: пашанцавала. Але хіба можна выкінуць з галавы і сэрца тое ранейшае жыццё, дзе, канешне, хапала ўсяго — гора таксама, але і шчасце было. Ехала сюды і, ведаеце, думала, каб узяць не толькі неабходныя для сям'і рэчы, але і нейкі "кавалачак" радзімы, якая зас-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

**СПРАВЫ МІХАСЯ РАМАНЮКА ПРАЦЯГВАЮЦЬ ЯГО ВУЧНІ І ПАСЛЯДОЎНІКІ...**

# ЗАПОЗНЕНЫЯ ПРОМНІ ЗГАСЛАЕ ЗОРКІ

Мінула ўсяго чатыры месяцы, як адышоў ад нас Міхась Раманюк — найбуйнейшы ў XX стагоддзі даследчык беларускай культуры, але раманюкоўскія справы здзяйсняюць яго вучні і паслядоўнікі. Іх намаганнямі Міхась Раманюк нібы працягвае сваю дзейнасць праз выставу "Сховішча свята" ў галерэі візуальных мастацтваў "NOVA" Цэнтральнай бібліятэкі імя Я. Купалы, якая працавала з 11 снежня 1997 года па 9 студзеня сёлетняга года, і рэспубліканскую навукова-практычную канферэнцыю "Семантыка і формы традыцыйных народных мастацтваў ад старажытнасці да нашых часоў", прысвечаную памяці прафесара М. Раманюка, якая прайшла ў Беларускай акадэміі мастацтваў.

Мы ўжо згадвалі раней, што М. Раманюк пакінуў нашчадкам вялікі архіў і значную этнаграфічную калекцыю, але не ўспомнілі, што ён падрыхтаваў навукова-метадычную і матэрыяльную базу для стварэння ў сценах Беларускай акадэміі мастацтваў лабараторыі беларускага касцюма, пачаткам дзейнасці якой з'явілася ўжо згаданая канферэнцыя. І менавіта на ўшанаванне памяці М. Раманюка была створана фотавыстава "Сховішча свята", арганізаваная фотамастакамі Уладзімірам Парфянком і Дзянісам Раманюком з прыватных збораў старой фатаграфіі М. Раманюка і калекцыі сучасных фатаграфій У. Парфянка.

Фотавыстава была адметная не толькі тым, што ў сабраных калекцыянерамі фотатворах адлюстравалася матэрыяльная і духоўная культура беларусаў на працягу цэлага стагоддзя, ад 1899 да 1997 года, што само па сабе ўжо вельмі цікава, бо та-

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

# КАБ ЗЛІТАВАЎСЯ ЛЁС НАД КРЫВІЧАМІ ДЫ ЛІТВІНАМІ

## «КНЯЗЬ ВІТАЎТ» А. ДУДАРАВА Ў НАЦЫЯНАЛЬНЫМ АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ

Яны пакладуць на плечы адзін аднаму рукі. Будуць доўга глядзець адзін аднаму ў вочы. Быццам збіраюцца раз назаўсёды забыць нядаўнюю смяртэльную варожасць. Быццам той, што паманьяцку праліваў кроў, забіваў і бэсціў кожнага, хто замінаў яму на шляху да прагавіта жаданай каралеўскай кароны, цяпер моліць і чакае даравання. А мо гэта развітанне валадароў перад тым, як яны раз'едуцца, і адзін і другі міралюбіва займе манаршы трон у сталіцы сваёй дзяржавы? Не верыцца, ой не верыцца ў міралюбства гэтага ганарлівага Ягайлы, кожны міг гатовага занесці меч над галавой упартага неслуха. Ды і князь Вітаўт, паклаўшы яму на плячо руку, мабыць, ведае, што зацяты ваяўнічы задзірака наўрад ці ўсур'ёз адмовіцца ад братазабойчых сварак.

То — не мір,

То — перамір'е...

На календары год адна тысяча трыста восемдзесят другі. Князь Вітаўт карануецца на цараванне ў Вялікім Княстве Літоўскім. На доўгія гады. І ён праславіць сваю дзяржаву росквітам духоўнай культуры, самабытнай адметнасцю жыццёвага ўкладу, грамадска-эканамічным парадкам, ратнымі подзвігамі... Гэта — у будучыні. А ў гэтую хвіліну адвядзе вочы ад хітрага інтрыгана, вымушанага прызнаць усе перавагі свайго высакароднага саперніка. І перастурае князь Вітаўт свой гістарычны Рубікон...

Дзіўнае, але і надта трапнае вызначэнне дае тэатр жанру гэтага сцэнічнага відовішча: легенды сівой даўніны. На падмостках дзейнічаюць персанажы гістарычна вядомыя — сын вялікага Гедыміна князь Тракайскі і Жамойцкі Кейстут, ягоны сын князь Вітаўт, вялікі князь літоўскі, а пазней і кароль Польшчы Уладзіслаў Ягайла. Голас сааўтара пры зменах дэкарацыйнага фону дакладна паведамляе пра месца падзей і называе даты: "Лес перад замкам у Гародні. 1382 год. Ноч на Купалле", "Кракаў. Сад перад Каралеўскім палацам", "Крэва. Стан дружыны Кейстута", "Восеньская раніца. Перад замкам у Троках". Да ўсяго п'еса мае вершаваны тэкст з афарыстычнымі зваротамі. О, кожны тэатрал, склаўшы гэтыя паказчыкі — гістарычнае мінулае, міжусобіцы ўдзельных валадароў, мілагучная рыторыка маналогаў, — адразу скажа, што ўзнаўляецца на сцэнічных падмостках гістарычная хроніка. Знаёмы яшчэ па творах Шэкспіра жанр, наконт якога не адно стагоддзе не аціхаюць спрэчкі.

Усявед-тэатрал не памыліцца. Пэўныя рысы гістарычнай хронікі

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля "Князь Вітаўт". Ягайла — Мікалай КІРЫЧЭНКА, Вітаўт — Генадзь ДАВЫДЗЬКА.**

**Фота Канстанціна ДРОБАВА.**

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**



## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

НА СУСТРЭЧЫ З ПРЭЗІДЭНТАМ

### ГАТОВЫ ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА



"Мы гатовы да супрацоўніцтва з Беларуссю, і кантакты з вашай рэспублікай маюць для нас вельмі вялікае значэнне". Так у ходзе дыялога з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам заявіў пасол і кіраўнік Прадстаўніцтва Еўрапейскай камісіі ў нашай краіне Луіс Карлас Марэна Абаці. Іх сустрэча адбылася 2 лютага ў рэзідэнцыі кіраўніка беларускай дзяржавы.

Тэрмін знаходжання пана Абаці ў Мінску скончыўся, і перад адбыццём на радзіму ў ходзе паўгадзіннай гутаркі бакі абмяняліся думкамі адносна перспектыў развіцця беларуска-еўрапейскага супрацоўніцтва напярэдадні прыбыцця ў нашу рэспубліку новага прадстаўніка Еўрапейскай камісіі. Як падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, еўрапейскі напрамак знешняй палітыкі для Беларусі такі ж важны, як і развіццё цесных кантактаў на ўсходзе — з Расіяй і іншымі краінамі СНД.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.

ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР

### АМЕРЫКАНСКІ ПАСОЛ ЗНАЁМІЦЦА З ГРОДЗЕНШЧЫНАЙ

Знаёмства з багатай культурна-гістарычнай спадчынай Беларусі, дзейнасцю мясцовых улад, грамадскіх арганізацый, навучальных устаноў, сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў — асноўная мэта паездкі ў Гродна Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла ЗША ў Беларусі Дэніела Спекхарда. Кіраўнік амерыканскай дыпламатычнай місіі знаходзіўся ў горадзе над Нёманам 3—4 лютага.

Як паведамілі ў прэс-службе пасольства ЗША, пан Спекхард наведаў Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы, сустрэўся з прадпрымальнікамі рэгіёна.

БІЯТЛОН



У Раўбічах, пад Мінскам, прайшоў чэмпіянат Еўропы па біятлону. У апошні дзень спаборніцтваў прайшлі эстафетныя гонкі мужчын і жанчын. У мужчынскай эстафеце мацнейшай стала каманда Германіі, другое месца занялі нарвежцы, а трэцяе заваявала каманда Беларусі. У жанчын першае месца занялі біятланісткі Германіі, другое — Расіі, трэцяе — Фінляндыі.

НА ЗДЫМКУ: беларуская каманда, якая заняла трэцяе месца (злева направа) Ігар ПЕСЦЕРАЎ, Аляксандр ІВАНОЎСКІ, ІВАН ПЕСЦЕРАЎ і Дзмітрый ШЫХАЎ.

МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ

### СТРАТНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ МЕНШ

У прамысловасці Беларусі колькасць стратных прадпрыемстваў у мінулым годзе ў параўнанні з 1996-м знізілася і склала ў адносінах да іх агульнай колькасці 13,8 працэнта.

Паводле даных Міністэрства статыстыкі і аналізу рэспублікі, стабілізуецца фінансавае становішча на прадпрыемствах хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці, у машынабудаванні і металаапрацоўцы, лёгкай і харчовай галінах народнай гаспадаркі. Што датычыць рэнтабельнасці прамысловай вытворчасці ў краіне за мінулы год, то яна склала 13,3 працэнта супраць 10,6 працэнта ў 1996 годзе. Паводле звестак статыстыкаў, гэты паказчык прыблізна аднолькавы ва ўсіх прадпрыемствах дзяржаўнай уласнасці і складае 11,9 працэнта. У прадпрыемстваў іншых формаў уласнасці ён вышэйшы і ў сярэднім роўны 15,8 працэнта.

ПРАКУРАТУРА ЗАНЕПАКОЕНА

### ЗЛАЧЫННАСЦЬ РАСЦЕ І МАЛАДЗЕЕ

29 студзеня адбылася калегія рэспубліканскай пракуратуры, на якой былі падведзены вынікі работы пракурораў за мінулы год, а таксама прааналізаваны стан спраў з захаваннем законнасці ў нашай дзяржаве і сітуацыя ў сферы барацьбы са злачыннасцю.

Як адзначыў у сваім дакладзе Генеральны пракурор А. Бажэлка, летась было зарэгістравана 128 тысяч 420 злачынстваў, што на 1 181 больш, чым у 1996 годзе. Найбольш занепакоена кіраўніцтва пракуратуры, у прыватнасці, ростам колькасці наўмысных забойстваў, разбойных нападаў і грабяжоў. Злачыннасць год ад году маладзее. Напрыклад, летась непаўналетнімі ўчынена амаль 10 тысяч злачынстваў. Пракуратуру таксама не можа не хваляваць той факт, што на фоне росту злачыннасці даволі нізкі працэнт яе раскрыцця. Напрыклад, як адзначалася на калегіі, у мінулым годзе не былі ўстаноўлены вінаватыя ва ўчыненні 41 тысячы злачынстваў, інакш кажучы, практычна кожнае трэцяе злачынства засталося нераскрытым.

Зрэшты, і пакаранне летась не заўсёды было справядлівым. Як адзначалася на калегіі, у мэтах выпраўлення допушчаных судамі памылак пракурорамі было апратэставана больш як 4,5 тысячы незаконных прыгавораў і рашэнняў.

Наогул жа пракуроры, абараняючы інтарэсы грамадства і дзяржавы, летась санкцыяніравалі арышт больш чым 21 тысячы злачынцаў, накіравалі ў суды 52 600 крымінальных спраў.

ГРАНІЦА



Ахову граніцы з Украінай пачаў нядаўна створаны ў Гомелі пагранічны атрад. Тут пабудаваны пакуль не ўсе неабходныя службовыя збудаванні і памяшканні, няма кантрольна-следавых палос і застаў, аднак пастаянны кантроль за транспартным патокам на трасе Гомель—Кіеў ужо наладжаны. Ёсць і першыя затрыманыя — жыхары Бангладэш і Афганістана, якія спрабавалі нелегальна прайсці праз тэрыторыю рэспублікі на Захад. Праўда, для жыхароў пагранічных раёнаў прадугледжаны спрошчаны рэжым пропуску.

НА ЗДЫМКАХ: да аховы дзяржаўнай граніцы прыступіць!

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### БЫЦЬ ЦІ НЕ?

Чуткі аб тым, што ў бліжэйшы час у нашай краіне пачнецца будаўніцтва атамнай электрастанцыі, абвярг Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў час нядаўняга наведвання Акадэмічнага навукова-тэхнічнага комплекса "Сосны".

У інтэрв'ю журналістам ён адзначыў, што цяпер гэтае пытанне на дзяржаўным узроўні не ставіцца. Магчыма, у будучыні патрэбы краіны ў энергіі узрастуць настолькі, што іншага выйсця з сітуацыі, як будаўніцтва ўласнай АЭС, не будзе, сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Па словах кіраўніка дзяржавы, адным з фактараў, які можа паўплываць на прыняцце рашэння аб будаўніцтве АЭС, з'яўляецца наяўнасць на тэрыторыі суседніх дзяржаў у непасрэднай блізкасці ад межаў Беларусі цэлага шэрагу дзеючых атамных электрастанцый, што нясуць патэнцыяльную пагрозу. З другога боку, адзначыў Прэзідэнт, нельга забываць аб разбуральных выніках, якія прынесла чарнобыльская катастрофа.

У любым выпадку, па словах Аляксандра Лукашэнкі, канчатковае рашэнне па гэтаму пытанню прыме народ. І калі жыхары рэспублікі скажуць "так", АЭС на тэрыторыі Беларусі трэба будзе будаваць згодна з самымі жорсткімі патрабаваннямі бяспекі. Аднак усё гэта адносіцца да вельмі аддаленнай перспектывы, падкрэсліў Прэзідэнт.

ПАМЯЦЬ





У Беларусі шырока адзначаецца 80-годдзе Пятра Машэрава буйнога палітычнага і дзяржаўнага дзеяча нашай дзяржавы савецкага перыяду. У сувязі з гэтым Віцебскаму дзяржаўнаму універсітэту нададзена ўказам Прэзідэнта імя Пятра Машэрава. У фае будынка галоўнага корпуса ВНУ будзе ўстаноўлены бюст П. Машэрава, створаны выкладчыкам кафедры выяўленчага мастацтва Іванам Каладоўскім.

НА ЗДЫМКАХ: Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П. Машэрава; скульптар Іван КАЛАДОЎСКІ ля бюста П. Машэрава.

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

"БЕЛАРУСКАЕ БІСТРО" адчыніла свае дзверы на сталічным праспекце Машэрава. Гэта першы беларускі стацыянарны рэстаран хуткага харчавання. Нацыянальная праграма "Беларускае бістро" прадугледжвае месц такія рэстараны ў абласных і раённых гарадах. А з часам "падужацца" і з слынным "МакДональдсам" — адкрыць свае пункты хуткага харчавання за мяжой.

ДОСЛЕДНЫ ўзор новага самазвала грузападымальнасцю 45 тон сабраны ў эксперыментальным цэху Беларускага аўтамабільнага завода. Новы БелАЗ прызначаны для работы ў кар'ерах, таму яго стваральнікі робяць стаўку на попыт найперш у Расіі.

КОНКУРС маладых выканаўцаў "Калядная зорка" адбыўся ў Пінску. За ганаровы тытул змагаліся каля 20 удзельнікаў, якія выступалі ў жанры песні і танца. Першае месца сярод спевакоў заняў Саша Чаркас, выхаванец дзіцячай музычнай школы № 1, у танцы перамаглі Аксана Варашылава і Атаноль Цяценькін з вучылішча мастацтваў Пінска.

АДНА з галоўных частак бюджэту сталіцы на 1998 год — адукацыя. На яе фінансаванне сёлета выдзяляецца каля 4,3 трыльёна рублёў. Чацвёртая частка бюджэту накіроўваецца на ахову здароўя і развіццё фізічнай культуры ў Мінску.

У 1997 ГОДЗЕ рухомыя групы размініравання, створаныя ў інжынерных войсках, выканалі больш за 1 200 заявак. Дзякуючы мужнасці, прафесіяналізму сапёраў, абясшкоджана і знішчана 6 774 штукі розных боеприпасаў, у тым ліку больш за 2 000 розных мін, 23 авіябомбы, больш за 2 900 снарадаў, 1 320 гранат. Асабліва вялікі "ўраджай" смертаноснага металу сабраны на палях, дзе ішлі кровапралітныя баі, — у Віцебскім, Полацкім, Лёзненскім раёнах Віцебскай вобласці, Бабруйскім, Чавускім — Магілёўскай, Светлагорскім — Гомельскай вобласці, у Гродзенскім і Лідскім раёнах.

Супрацоўнікі рэдакцыі газеты "Голас Радзімы" выказваюць глыбокае спачуванне намесніку галоўнага рэдактара Чаркасавай Дзіяне Цімафееўне ў сувязі з вялікім горам, якое яе напаткала, — смерцю маці.

# «ЧАРНОБЫЛЬ УСІХ НАС ПАРАСКІДАЎ...»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

талася там, у чарнобыльскай зоне. Вось і атрымалася: разам з крэсламі, ложкамі, талеркамі везла старыя мясцовыя строі — андаракі, кашулі, хусткі, даматканыя ручнікі, вышыванкі, нават лапці ёсць... Летась усё гэтае дабро, нібы маленькая экспазіцыя, месцілася ў класным пакоі, дзе я працую, — мой жа клас беларускамоўны. Але апошнім часам беларускамоўнасць у школе стала згортвацца. Неяк атрымалася так, што і выставу прыйшлося зняць... Але засталася вісець на сцяне карціна — від маёй радзімы, вёскі Куклічы. Карціну намаляваў настаўнік нашай школы. Я ўсё-ўсё падрабязна расказвала: дзе, што і як месціцца, выглядае, а ён маляваў... І вось зараз, дзякуючы гэтаму добраму чалавеку, кожны дзень сустракаюся са сваімі мясцінамі... Куклічы не высялялі, мой стары бацька і зараз там жыве.

А тады калі мы прыехалі са свайго невялікага Чачэрска Гомельскай вобласці ў жніўні 93-га, увогуле вельмі сумавалі.

Спачатку, як здарылася аварыя, у Чачэрску было ціха, да нас нават перасялялі іншых — з Хойнікаў, Нароўлі... Я працавала ў мясцовым прафесійна-тэхнічным вучылішчы. Яно мела сельскагаспадарчы накірунак, лічылася няд рэнным, нават прыязджалі замежныя навучэнцы — з Манголіі.

Прымалі мы тых першых перасяленцаў ад усёй душы і ніяк не думалі, што саміх чакае падобны лёс. Потым далі нам дазіметры, каб мералі радыяцыю, а яшчэ праз колькі дзён, недзе на пачатку мая, прагучала каманда: сабраць харчавання на тры дні (нібыта прыйшла тэлеграма: рэактар можа ўзарвацца). Дырэктар вучылішча сказаў усім быць гатовымі, кожны дома падрыхтаваў сабе спецыяльную маску з марлі. (Гэтыя маскі, дарэчы, рабілі і на фабрыцы мастацкіх вырабаў — вось так нечакана змяніўся асартымент...) Размеркавалі таксама падвалы: хто дзе хаваецца пры неабходнасці. Карацей, людзі былі напагатове.

Усе развітваліся адзін з адным — сябар з сябрам, сусед з суседам... Бо чакалі: будзе нам гора. Але, дзякуй Богу, новых узрываў не адбылося. І, здавалася, пачалі зноў жыць, садзіць агароды... А потым, не памятаю дакладна, праз год ці два, прыехалі да нас вучоныя з Амерыкі, Японіі, рабілі замеры, а пасля сабралі мітынг і людзям проста адкрылі вочы. Хаця на той час ужо і дзяржава пачала выдаваць грашовую дапамогу — мы іх звалі "грабавымі", нас забяспечвалі чыстымі прадуктамі, да зарплаты даплачвалі тым, хто застаўся працаваць, а таксама пенсіянерам, пуцёўкі давалі ў санаторыі, дзяцей вывозілі на адпачынак. Я са сваімі малымі ў 86-м паехала ў Крым — маім дзяўчынкам споўнілася тады 6 і 14 год.

А яшчэ раскажу, якое нам шчасце выйшла. Маёй Наташцы, можа, як дачцэ настаўніцы, даручылі напісаць падзяку ў Германію за гуманітарную дапамогу. Яна зрабіла. А ў адказ прыйшла пасылка, аднак ужо ад іншых людзей. Наташа напісала і ім, падзякавала. Яны адказалі і 10 марак у пісьмо паклалі. Мы не ведалі, як выказаць сваю радасць, удзячнасць. Завязалася ў нас сапраўднае сяброўства. Гэтыя людзі жывуць каля Дрэздэна. Сям'я Вернера Эрхарда і сям'я Мог. А ў 94-м годзе яны запрасілі нас да сябе, выслалі грошы на дарогу. І мы з Наташай ездзілі. Адносіліся да нас з пачуццём павагі. Пра ўсё пыталіся. Яны ведаюць, колькі гора прынеслі на Беларусь фашысты. Што адчувалі мы? Ніяк не выказаць... Мабыць, гэта Бог паслаў нам такіх цудоўных, добрых людзей. А летась зноў запрашэнне — мне і старэйшай дачцэ з дзіцем. У той нямецкай сям'і таксама ёсць малое, вось яны і хацелі, каб нашы дзеці з розных краін вучыліся сябраваць змалку. Але Люда не змагла хутка аформіць замежны пашпарт — наша валакіта вядома ж якая. А грошай, каб усё паскорыць, у яе не хапіла. Так што паехала я адна. Была два тыдні, а запрашалі на два месяцы. А вось у сваёй краіне, тады яшчэ СССР, ад нас нават хаваліся, калі мы прыязджалі ў які-небудзь санаторый, нібы ад заразных: маўляў, ад нас радыяцыя ідзе. Са мной так было ў Нальчыку. Колькі мы перажывалі, колькі было слёз. А ўвогуле ў мяне крыўды няма ні на кога.

Пасля прафтэхвучылішча я працавала ў невялікай пасялковай школе. Там зрабілі дэзактывацыю, зрэзалі верхні пласт зямлі, заасфальтавалі сцежкі, зрабілі новы туалет, дах... Тады ж улады пачалі рыхтаваць спісы на адсяленне інвалідаў, хворых, сем'яў з малымі дзецьмі, бо было ў нас болей за 16 кюры. Збіралі заявы — хто куды хацеў бы паехаць. Але спачатку людзі кінуліся самастойна шукаць сабе якісьці бяспечны прытулак. Здаралася, даведаўшыся праўду, некаторыя не чакалі афіцыйнага ратавання, а тут жа кідалі дамы, гаспадаркі, бралі дзяцей і ехалі ў Расію, чамусьці часта ў Паволжа. Часам каго-небудзь спярша адпраўлялі "ў разведку". А потым — і астатнія рушылі.

Нас у бацькі пяцёра. Усе жылі тут жа — на вёсцы, у Чачэрску. Адзін брат дырэктарам саўгаса працаваў, другі — інжынерам, сястра — поварам, я і яшчэ адна сястра — настаўніцы. Вось і нашы браты паехалі шукаць новае месца — спачатку ў Віцебскую вобласць, потым у Расію, шукалі, каб работа была... Але нічога не атрымалася тады. Працу прапаноўвалі толькі трактарыста ці даяркі...

Напачатку мае дзеці не трапілі на адсяленне. Можа, тыя, хто складаў спісы, палічылі маіх недастаткова хворымі, ці што... Але не ведаю, ці былі ўвогуле ўжо тады ў нас больш-менш здаровыя дзеці... Што толькі рабілася ў школе! І сёння плачу, калі ўспамінаю. Дзяўчынка з майго класа ў 1991-м годзе памерла ад раку крыві — у піянерскім лагеры ў Шчучыне, куды яе адправілі адпачываць, памерла за шэсць дзён. Ёй зрабілася нядобра, тэмпература высокая. Я прыехала забіраць, а ў яе плечыкі чорныя, як крыльцы ў матылька. Дзяўчынку адвезлі ў Гродна, потым у Мінск, там і не стала яе. А сям'і ж той таксама не давалі спачатку дазволу на адсяленне — іх пасёлак (тры кіламетры ад Чачэрска) лічыўся "чыстым". Потым, калі ўсё здарылася, ужо і кватэру прапанавалі. Вось толькі дзіця не вернеш. А колькі вучняў засынала на ўроках... Спачатку думалі: з-за таго, што некаторыя з іх з неспакойных сем'яў, а таму дрэнна харчаваліся, не высыпаліся. Аднак жа сапраўдная прычына была ў іншым — арганізм ад радыяцыі слабеў. Мы тады тых дзетак пачалі адводзіць у памяшканне групы падоўжанага дня, дзе ўкладвалі ў ложкі. Дзеці сталі дрэнна вучыцца, не запаміналі вершы... А колькі здаралася выпадкаў крывацёкаў, у маёй дачкі Наташкі — таксама. Усё гэта праявілася недзе ў 87-м—88-м гадах. Урачы пачалі хадзіць па хатах, пытацца пра здароўе. І амаль ці не ў кожным доме людзі скардзіліся на галаўны боль, санлівасць, нямогласць...

Пайшла і я да начальнікаў, да дактароў у бальніцу, каб малодшую дазволілі вывезці. Нас паставілі ў чаргу ўжо ў апошні момант, калі перасяленне згортвалася. Урэшце нам з дачкой і мужам выдзелілі двухпакаёвую кватэру ў Мінску. Старэйшая засталася ў Чачэрску: яна выйшла замуж, а яе муж, ён служыў у міліцыі, не захацеў нікуды ехаць. Потым яны разышліся. Зараз дачка працуе ў бальніцы, жыве з чатырохгадовым дзіцем у той радыяцыі. Плача — хлопчык часта хварэе, але не ведаю, як ёй дапамагчы, бо ў нас там ужо "толькі" 12 кюры, а таму льгот ніякіх няма, а людзі паміраюць. Узрост 40—50 год. І сястра мая таксама захварэла на "анкалогію". Ёй далі кватэру ў Мінску, але заставацца тут яна ўжо не стала, сказала: паеду дажываць, колькі наканавана, дадому.

Чаму ж я апынулася менавіта ў Мінску? На той час тут ужо жылі мае браты і сястра. Спадзявалася: разам з імі лягчэй новы побыт наладжваць.

Я на сваё цяперашняе жыццё не скарджуся: працую ў цудоўнай школе, кіраўнікі і калегі ставяцца да мяне з павагай, дапамагаюць. Хаця, ведаю, работу знайсці вельмі няпроста. Вось брат закончыў Горацкую сельгасакадэмію, заатэхнік (я казала), быў дырэктарам саўгаса... А зараз, у 40 гадоў, — вартаўнік на ЦЭЦ, нічога лепшага так і не здолеў знайсці, колькі ні звяртаўся па дапамогу ў розныя інстанцыі... Жонка яго там, дома, працавала эканамістам, галоўным бухгалтарам, а тут спатрэбілася паўгода, каб знайсці месца простага бухгалтара ў планавым аддзеле. Яна кажа: і горка, і сорамна, што раблю работу, якая па сілах студэнтцы тэхнікума. Але ж пры справе, і то добра. Другі брат — інжынер, у Лагойску рамантуе і праводзіць тэлефоны... Вельмі цяжка ў нас з працаю. Чаму за Мінск трымаемся? Сакрэта тут няма. Ва ўсіх падрастаюць дзеці, ім трэба атрымліваць адукацыю, вось для іх і стараемся. Можа, яны будуць шчаслівейшыя за нас... Мая Наташа добра вучыцца, вельмі любіць беларускую мову, арганізуе розныя вечары, я кажу, сапраўдны прапагандыст. Маладыя прызвычайваюцца да горада лёгка.

У нас у раёне Сухарава жыве шмат перасяленцаў, ведаем адзін аднаго. Часам збіраемся на святы, асабліва прастольныя. Успамінаем, песні пяём, а то і плачам. Калі трэба, наведваем адзінокіх старых, хворых і дзяцей гэтаму вучым. Мы тут не дзелімся, хто там чачэрскі, хто хойніцкі, хто брагінскі. Хіба толькі па мове можна вызначыць. Мы аднолькавыя, бо ў нас аднолькавая бяда і аднолькавы лёс — лёс перасяленцаў. Рабілі спробу арганізавацца, але не атрымалася. А вось у Малінаўцы, Шабанах, кажуць, выйшла.

А ўвогуле, каб дакладна ведала, што сёння ў Чачэрску ўжо сапраўды чыста, кінула б гэты Мінск і паехала дадому. Мне ж там кожная сцяжынка знаёмая... А вось людзі... Амаль ніхто. Нядаўна ездзіла да дачкі, дык, калі выйшла на вуліцу, няма каму было і "добры дзень" сказаць. Чарнобыль усіх нас параскідаў...

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# ЗЯМЛЯ — ПРАДПРЫЕМСТВАМ

Прэзідэнт А. Лукашэнка падпісаў змяненні і дапаўненні ў Закон Рэспублікі Беларусь "Аб праве ўласнасці на зямлю".

З'явілася магчымасць набываць зямельныя ўчасткі ў прыватную ўласнасць не толькі фізічнымі, але і юрыдычнымі асобамі. Прычым такое ж права цяпер прадастаўлена замежным грамадзянам і юрыдычным асобам, а таксама міжнародным арганізацыям і аб'яднанням, якія могуць з'яўляцца ўласнікамі зямлі на аднолькавых правах з айчыннымі.

Калі раней замежныя інвестары маглі карыстацца зямельнымі ўчасткамі толькі на ўмовах арэнды тэрмінам да 99 гадоў, то цяпер такая магчымасць прадугледжана ў дакуменце як альтэрнатыва права ўласнасці на іх.

Ва ўласнасці суб'ектаў гаспадарання могуць знаходзіцца землі, прадастаўленыя для эксплуатацыі прыватызаваных аб'ектаў вытворчага прызначэння і аб'ектаў па аказанню паслуг, а таксама для ажыццяўлення інвестыцыйных праектаў.

Не засталося без увагі і існаванне паўторнага рынку зямлі: сярод правамоцтваў уласнікаў прадугледжана магчымасць продажу, здачы ў залог і арэнду, перадачы ў спадчыну ці ў часовае карыстанне зямельных участкаў ці іх частак. Што тычыцца залогу зямельнага ўчастка ў якасці прадмета забеспячэння банкаўскага крэдыту, то ён быў прадугледжаны яшчэ ў папярэдняй рэдакцыі закона, але распаўсюджвання так і не атрымаў з-за малога ацэначнага кошту зямлі. У гэтым святле бачыцца неабходнай распрацоўка рыначнай сістэмы ацэнкі зямельных участкаў у Беларусі.

Варта звярнуць увагу на тое, што перадача зямлі ва ўласнасць юрыдычных асоб (іх уладальнікаў), у тым ліку замежных, будзе ажыццяўляцца ў парадку, устаноўленым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Размова ідзе аб парадку, які Савету Міністраў даручана распрацаваць і прадставіць на зацвярджэнне Прэзідэнту не пазней 1 мая гэтага года.

Засталося без змянення недакладнае вызначэнне аднаго з выпадкаў, калі па рашэнню суда дапускаецца прымусовае адабранне зямельных участкаў, і паранейшаму няясна, што заканадаўца мае на ўвазе пад паняццем "для дзяржаўных ці грамадскіх патрэб". Ці можа сёння ўласнік быць у поўнай меры ўпэўненым, што зямля, а з ёю і адпаведныя капіталаўкладанні раптам не акажуцца крайне неабходнымі для дзяржавы ці грамадскасці, — гэта ён павінен вырашаць самастойна.

Хацелася б нагадаць, што ў сакавіку гэтага года ў Палаце прадстаўнікоў будзе разглядацца Кодэкс аб зямлі. Відавочна, ён будзе дапрацаваны з улікам тых пытанняў, якія ўзнікнуць у ходзе рэалізацыі Закона "Аб праве ўласнасці на зямлю".

**Вадзім ХАДАСОЎСКІ.**

## ЧАЛАВЕК ПАКІНУЎ ПАМЯЦЬ АБ САБЕ



**У вёсцы Коханава Івацэвіцкага раёна кожны з жыхароў ведае пра былога аднавяскоўца Канстанціна Маслоўскага. У 1915 годзе ён загінуў ад нямецкай кулі, ратуючы бежанцаў. Пахаваны ў лесе недалёка ад вёскі. А памяць, якую пакінуў, відаць яшчэ пры пад'ездзе да вёскі — гэта прыгожая алея з магутных ліп. Іх ён пасадзіў у 1910 годзе. Цяпер дрэвы растуць на мяжы агарода, што належыць яго ўнуку — 73-гадоваму пенсіянеру Івану Маслоўскаму. У мінулым гэта адзін з лепшых брыгадзіраў мясцовага калгаса, а цяпер Іван Мікалаевіч любіць павольна прайсціся ўздоўж дзедавай алеі, дакрануцца рукой да шурпатай кары дрэва. А летам каля цвітучых ліп ён выстаўляе пчаліныя вуллі.**

**НА ЗДЫМКУ: Іван МАСЛОЎСКІ ў дзедавай алеі.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

## ЧОРНЫЯ СЛЯДЫ ГІСТОРЫІ: ГОД 37-мы

# ПАЛІТЫЧНЫЯ МЭТЫ І «ГАСПАДАРЧЫ РАЗЛІК» ТЭРОРУ

Летам 1936 года Сталін пачаў непасрэдную падрыхтоўку да тых падзей, якія назаўсёды ўвойдуць у нашу гісторыю пад назвай "1937 год". У чэрвені ён даў указанне органам НКУС арганізаваць новы палітычны працэс, на гэты раз — над трацкістамі і зіноўеўцамі разам. 29 ліпеня ЦК ВКП(б) адобрыў закрытае пісьмо аб тэрарыстычнай дзейнасці трацкісцка-зіноўеўскага контррэвалюцыйнага блока. Яго склалі на падставе даных, выбітых на допытах Зіноўева, Каменева, Бакаева, Еўдакімава, Мрачкоўскага і іншых вядомых дзеячаў партыі, якіх у камерах НКУС днём і ноччу рыхтавалі для вывядзення на адкрыты працэс. З гэтых паказанняў вынікала, што НКУС выкрыў шэраг тэрарыстычных груп трацкістаў і зіноўеўцаў, якія рыхтавалі забойствы правадыроў партыі і дзяржавы. У сувязі з гэтым трацкісты і зіноўеўцы былі аб'яўлены ў пісьме лютымі ворагамі савецкай улады. ЦК заклікаў усіх камуністаў да ўзмацнення пільнасці "на любым участку і ва ўсякай абстаноўцы". "Неад'емнай якасцю кожнага бальшавіка, — гаварылася ў заключнай частцы дакумента, — у сённяшніх умовах павінна быць уменне распазнаваць ворага партыі, як бы добра ён ні быў замаскіраваны".

Не паспелі на месцах абмеркаваць закрытае пісьмо ЦК і выявіць чарговую "порцыю" "ворагаў народа", як з цэнтра падаспеў новы сігнал: у жніўні ў Маскве быў праведзены працэс па справе так званага "антысавецкага аб'яднання трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра". Суд гэты суправаджаўся магутнай прапагандысцкай кампаніяй, правядзеннем шматлікіх мітынгаў, сходаў, на якіх прымаліся рэзалюцыі ў падтрымку расстрэлу, даваліся клятвы вернасці правадыру і злыя, на мяжы нецэнзурнасці праклёны "шалёным сабакам" — трацкістам і зіноўеўцам. Па краіне пракацілася хваля новых арыштаў.

Падрыхтаваўшы адпаведную глебу, Сталін вырашыў нанесці новы ўдар і ўзмацніць рэпрэсіі пры дапамозе змены кіраўніцтва НКУС. 25 верасня 1936 года ён паслаў з Сочы ў Маскву тэлеграму з патрабаваннем замяніць Ягоду Яжовым і ліквідаваць адставанне ў выкрыцці ворагаў. Ужо на наступны дзень паслухмянае Палітбюро ЦК ВКП(б) выканала патрабаванні Сталіна, а 29 верасня прыняло пастанову "Аб адносінах да контррэвалюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх элементаў", пад якім Сталін паставіў свой подпіс. У пастанове гаварылася: "Да апошняга часу ЦК ВКП(б) разглядаў трацкісцка-зіноўеўскіх нягоднікаў як перадавы палітычны і арганізацыйны атрад міжнароднай буржуазіі. Апошнія факты гавораць, што гэтыя паны скаціліся яшчэ больш уніз, і іх даводзіцца цяпер разглядаць як разведчыкаў, шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў фашысцкай буржуазіі ў Еўропе. У сувязі з гэтым неабходная расправа з трацкісцка-зіноўеўскімі нягоднікамі, якая б ахоплівала не толькі арыштаваных, следства па справе якіх ужо скончана, і не толькі падследчых,.. справы якіх яшчэ не скончаны, але і тых, хто быў раней высланы". Так быў дадзены сігнал да татальнага знішчэння былых апазіцыянераў, падобна таму, як у недалёкім мінулым ставіліся задачы ліквідацыі непажаданых уладзе класаў. Новая ўстаноўка азначала: кожны, у чыёй біяграфіі калі-небудзь была хоць маленькая "пляма", мог трапіць у разрад "ворагаў народа".

Чым больш даведваемся мы аб выніках масавых рэпрэсій, іх неверагоднай колькасці і жорсткасці, тым часцей гучыць пытанне: для чаго, у імя якіх мэт былі праліты гэтыя рэкі крыві, на што разлічваў Сталін.

Доўгі час бясспрэчнай ісцінай лічылася, што ахвярамі рэпрэсій былі тады сапраўдныя ворагі. Прыхільнікі гэтага пункту гледжання існуюць і сёння. Праўда, найбольш разумныя з іх пад націскам відавочных фактаў і выкрыванняў апошняга часу "перастроіліся" і прызнаюць, што разам з "ворагамі" пацярпелі і сумленныя людзі. Проста "ворагаў", маўляў, было многа, а таму Сталін і карныя органы не змаглі разлічыць сілу свайго ўдару і, размахнуўшыся, у святой нянавісці занадта шырока, закранулі невінаватых. Падтэкст тут просты: што ўжо тут спаганяць з тых, хто б'ецца, а тым больш за святую справу.

На самай справе зыходным пунктам сур'ёзнай размовы аб прычынах рэпрэсій можа быць толькі безумоўнае прызнанне: гэта было злачынства, пры дапамозе якога Сталін разлічваў вырашыць рэальна існуючыя праблемы, дасягнуць зусім канкрэтных палітычных і сацыяльна-эканамічных мэт, пераадолець супярэчнасці выбранай мадэлі грамадскага развіцця. Пры дапамозе рэпрэсій Сталін, па-першае, замацоўваў свае палітычныя пазіцыі як адзінаасобны правадыр і дыктатар, а па-другое, вырашаў усе тыя праблемы, якія ў дэмакратычным грамадстве пераадольваюцца шляхам прымянення палітычных, эканамічных і толькі ў крайнім выпадку адміністрацыйна-рэпрэсіўных мер.

У 1937 годзе Сталін наносіў перш за ўсё ўдар па партыі, яўна маючы намер "ачысціць" яе ад старых кадраў і прывесці да ўлады новае пакаленне, цалкам адданае правадыру. Старыя камуністы не задавальнялі "правадыра" ўжо таму, што ў іх вачах ён не быў абсалютна беззагаворным аўтарытэтам. Што б ні гаварылі гэтыя людзі з высокіх трыбун, як бы ні кляліся яны правадыру ў вернасці, Сталін ведаў: старыя партыйцы добра помняць і аб шматлікіх правалах "генеральнай лініі" ў 30-я гады.

Выступаючы на лютаўска-сакавіцкім (1937 года) Пленуме ЦК ВКП(б), Сталін падзяліў кіраўнікоў партыі на тры катэгорыі: "генералітэт нашай партыі", "партыйнае афіцэрства", "партыйнае унтэр-афіцэрства". "Генералітэт" — вышэйшы слой кіраўнікоў, які ўключаў, па словах Сталіна, 3—4 тысячы чалавек, складалі якраз старыя бальшавікі. Іх было больш ва ўсіх кіруючых органах партыі, перш за ўсё ў ЦК, яны ўзначальвалі мясцовыя партыйныя арганізацыі. Уплыў і ўлада партыйнага "генералітэту" пастаянна змяншаліся, аднак не знікалі зусім. За доўгія гады работы старыя кадры прыцерліся адзін да аднаго, наладзілі досыць трывалыя кантакты паміж сабой. Сталін перыядычна "тасаваў калоду" кіраўнікоў, перамяшчаў сакратароў абкомаў, сакратароў і загадчыкаў аддзелаў ЦК. Аднак зусім разбіць існуючыя сувязі, разбурыць групы, што аформіліся вакол "правадыроў" розных узроўняў па прынцыпу асабістай адданасці, пры дапамозе такіх мер не ўдавалася. Пераходзячы з аднаго месца на другое, кіраўнікі перацягвалі "сваіх людзей". Так, па сутнасці, у "генералітэце" партыі фарміраваліся групоўкі, члены якіх знаходзіліся нібы ў двайным падначаленні: з аднаго боку, служылі адзінаму правадыру, з другога — мелі сваіх "патронаў" у Палітбюро. Аналагічныя працэсы адбываліся і на ўзроўні сакратароў абкомаў. Усе гэтыя групоўкі былі ў цэлым раздроблены, чым у поўнай меры карыстаўся Сталін. Аднак само іх існаванне выклікала падазрэнне ў правадыра.

У сярэдзіне лютага 1937 года Г. Маленкоў, які займаўся ў ЦК ВКП(б) кадрамі, накіраваў Сталіну дакладную запіску, у якой былі сабраны звесткі, неабходныя для выступлення правадыра на лютаўска-сакавіцкім Пленуме. Мяркуючы па гэтым выступленні, Сталін сапраўды азнаёміўся з запіскай і выкарыстаў некаторыя яе даныя. З запіскі, у прыватнасці, вынікала, што сярод сакратароў абкомаў вышэйшую адукацыю мелі 15,7 працэнта, а ніжэйшую 70,4 працэнта, у сакратароў акруговых камітэтаў гэтыя паказчыкі складалі адпаведна 16,1 і 77,4 працэнта, сакратароў гаркомаў — 9,7 і 60,6 працэнта, сакратароў райкомаў — 12,1 і 80,3 працэнта і г. д. Не валодаючы належнымі ведамі і культурай, многія кіраўнікі бралі палітычным "умельствам" і вынаходлівасцю. Пры гэтым яны стараліся акружаць сябе людзьмі шэрымі і ўгодлівымі, апасаючыся сапернікаў і імкнучыся стварыць фон для ўласнага ўзвышэння. На лютаўска-сакавіцкім Пленуме Сталін папракаў партыйных кіраўнікоў: "Многія з вас баяцца канкурэнцыі, таму замухрышак вылучаюць, а яны вам аказваюць дрэнную дапамогу". Праўда, пры гэтым Сталін, вядома, не сказаў, што ўвёў парадак вылучэння "замухрышак" менавіта ён, паступова адцясніўшы з кіраўніцтва партыяй найбольш таленавітых і дасведчаных лідэраў, садзейнічаючы вылучэнню паслухмяных сваёй волі выканаўцаў.

У поўнай меры выкарыстаўшы сляпую адданасць многіх кіраўнікоў, Сталін адчуў сябе больш упэўнена і вырашыў замяніць іх больш маладымі і энергічнымі, а заадно спісаць на рэпрэсіраваных усю адказнасць за папярэднія беззаконні, правалы, цяжар народнага жыцця.

Як правіла, рана ці позна кіраўнікі, якія падвяргаліся крытыцы, аб'яўляліся "ворагамі народа". Людзей імкнуліся пераканаць, што злоўжыванні і самадурства прадстаўнікоў "наменклатуры" адбываюцца не ад самой сістэмы вылучэння і бескантрольнасці кадраў, а ад варожых інтрыг. Прынцып гэты быў агульным. На шкоднікаў і ворагаў было зручна спісваць усе шматлікія праблемы, якія існавалі ў грамадстве. Перабоі з харчаваннем — вінаваты ворагі, што праніклі ў калгасы, і вось ужо арганізуюцца адпаведныя працэсы. Высокі траўматызм на вытворчасці — зноў напагатове простае тлумачэнне і выяўленыя шкоднікі. Гадамі не вырашаецца жыллёвая праблема, а ў пабудаваных дамах людзям нельга жыць з-за шматлікіх недаробак і браку — таксама шкодніцтва. Шкоднікі арудуюць у гандлі, таму ён працуе вельмі дрэнна. Шкоднікі на транспарце — і з рэек сходзяць цягнікі і г. д. Увогуле, сталінскае кіраўніцтва шырока выкарыстоўвала няхітры, але досыць эфектыўны ў тых умовах спосаб маніпуляцыі грамадскай думкай: усё добрае — ад партыі, савецкай улады і правадыра: усё дрэннае — ад ворагаў і шкоднікаў.

**Вынікі апрацоўкі 40 300 картак персанальнага ўліку на жыхароў г. Мінска, Мінскай і Віцебскай абласцей, якія былі рэпрэсіраваны судовымі і несудовымі органамі ў 20—50-я гады і рэабілітаваны ў 1955—1994 гадах.**

(Даныя Камітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь).

**Па сацыяльнаму паходжанню:**

**а) з рабочых — 3 180 (7,89 працэнта)**

**б) з сялян — 31 738 (78,75 працэнта)**

**в) з служачых — 1 551 (3,85 працэнта)**

**г) з дваран — 810 (2,00 працэнта)**

**д) з духавенства — 319 (0,79 працэнта) і інш.**

**Розныя меры пакарання атрымалі нашы суайчыннікі, прыцягнутыя да адказнасці: 116 (2,94 працэнта) з іх былі сасланы, 4 460 (11,07 працэнта) высланы, а астатнім па прыгавору суда ці рашэнню несудовых органаў былі вызначаны розныя тэрміны пазбаўлення волі — ад 1 года да 25 гадоў.**

**12 864 чалавекі (31,92 працэнта) былі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.**

Аднак у краіне было нямала людзей (і Сталін ведаў гэта), якіх цяжка было правесці на "мякіне" шкодніцтваманіі. Яны нядрэнна разбіраліся ў сапраўдным сэнсе сталінскай палітыкі, ведалі цану самому правадыру і яго акружэнню, многае разумелі. Адной з яўных мэт масавых рэпрэсій была спроба знішчыць іншадумства і нават самую малую апазіцыйнасць.

Усіх, хто не быў слепа адданы правадыру, Сталін залічваў у патэнцыяльную "пятую калону". Туды ж аўтаматычна былі запісаны тыя мільёны камуністаў і беспартыйных, якія ўдзельнічалі ў апазіцыях, раскулачваліся, праследаваліся ў свой час як "контррэвалюцыянеры" і "шкоднікі" ці былі звязаны з "ворагамі народа" сямейнымі ці сяброўскімі вузамі. Такіх людзей было вельмі многа. У запісцы, якую Маленкоў падрыхтаваў напярэдадні лютаўска-сакавіцкага Пленума для Сталіна, у прыватнасці, гаварылася: "Асоба трэба адзначыць, што на сёння ў краіне налічваецца звыш 1 500 000 былых членаў і кандыдатаў у члены партыі, якія выключаны і механічна выбылі ў розны час, пачынаючы з 1922 года. На многіх прадпрыемствах сканцэнтравана значная колькасць былых камуністаў, прычым іншы раз яна перавышае колькасны склад партарганізацый, што працуюць на гэтых прадпрыемствах".

Для кіраўніцтва краіны мільёны пакрыўджаных ці пацярпелых былі ці ўжо гатовымі, ці патэнцыяльнымі праціўнікамі, якія ўзнімуць галаву ў крытычны момант. Такая прырода любога насілля. Аднойчы прымяніўшы яго, ужо цяжка спыніцца. Дэспатызм параджае процідзеянне і нянавісць, і каб утрымацца ля ўлады, дыктатура становіцца больш жорсткай.

Настрой боязі страціць уладу досыць адкрыта выказваў у сваіх больш позніх разважаннях аб падзеях 30-х гадоў адзін з блізкіх саратнікаў Сталіна — Молатаў. "1937 год быў неабходны. Калі ўлічыць, што мы пасля рэвалюцыі рубілі направа-налева, атрымалі перамогу, але рэшткі ворагаў розных напрамкаў існавалі, і перад тварам небяспекі фашысцкай агрэсіі яны маглі аб'яднацца. Мы абавязаны 37-му году тым, што ў нас у час вайны не было пятай калоны. Бо нават сярод бальшавікоў былі і ёсць такія, якія добрыя і адданыя, калі ўсё добра, калі краіне і партыі не пагражае небяспека. Але, калі пачнецца што-небудзь, яны пахіснуцца, перакінуцца. Я не лічу, што рэабілітацыя многіх ваенных, рэпрэсіраваных у 37-м, была правільнай... Наўрад ці гэтыя людзі былі шпіёнамі, але з разведкамі звязаны былі, а самае галоўнае, што ў рашаючы момант на іх надзеі не было". Для Молатава, а, мяркуючы па ўсім, ён у многім выказваў логіку разважанняў самога Сталіна, "вораг" — паняцце няпэўнае: "...і пацярпелі не толькі зацятыя нейкія правыя ці, не гаворачы ўжо, трацкісты, пацярпелі і многія, хто вагаўся, якія няцвёрда вялі лінію і ў якіх не было ўпэўненасці, што ў цяжкую мінуту яны не выдадуць, не пададуцца назад". На думку Молатава, масавыя рэпрэсіі — "прафілактычная чыстка" без пэўных граніц. Галоўнае ў ёй — не ўпусціць ворагаў, колькасць бязвінных ахвяр — пытанне другараднае: "Сталін, па-мойму, вёў вельмі правільную лінію: няхай лішняя галава зляціць, але не будзе ваганняў у час вайны і пасля вайны".

Гэты матыў знішчэння "пятай калоны", абгрунтаванні рэпрэсій спасылкамі на наяўнасць ворагаў, што стаіліся, актыўна ўкараняўся ў грамадскую свядомасць і ў 30-я гады. "Для таго каб напаскудзіць і нашкодзіць, — гаварыў Сталін на лютаўска-сакавіцкім Пленуме, — для гэтага зусім не патрабуецца вялікая колькасць людзей. Каб узвесці Днепрабуд, трэба пусціць у ход дзесяткі тысяч рабочых. А каб яго ўзарваць, для гэтага спатрэбіцца, можа быць, некалькі дзесяткаў чалавек, не болей. Каб выйграць бітву ў час вайны, для гэтага можа запатрабавацца некалькі карпусоў чырвонаармейцаў. А для таго каб праваліць гэты выйгрыш на фронце, дастаткова некалькі чалавек шпіёнаў дзе-небудзь у штабе арміі ці нават у штабе дывізіі, якія могуць выкрасці аператыўны план і перадаць яго ворагу. Каб пабудаваць вялікі чыгуначны мост, для гэтага патрабуюцца тысячы людзей. Але каб яго ўзарваць, на гэта дастаткова ўсяго некалькі чалавек. Такіх прыкладаў можна было б прывесці дзесяткі і сотні".

Запалохваючы пры дапамозе "такіх прыкладаў" краіну, Сталін разлічваў не толькі падагнаць хвалю тэрору. Гэта быў выпрабаваны і даўно вядомы прыём умацавання адзінаасобнай дыктатуры. Чым больш вакол ворагаў і чым больш яны небяспечныя, тым больш моцная вера народа ў вярхоўнага выратавальніка, тым прасцей перажываюцца цяжкасці, пераносяцца шматлікія ахвяры. У канцы 30-х гадоў Сталін у поўнай меры выкарыстаў для нагнятання атмасферы страху і падазронасці рэальнае пагаршэнне міжнароднага становішча, нарастанне пагрозы вайны.

І яшчэ адна абставіна зусім відавочна стымулявала сталінскую рэпрэсіўную палітыку: савецкая эканоміка чым далей, тым больш развівалася, абапіраючыся на выкарыстанне "таннай" рабочай сілы зняволеных. У шырокіх маштабах пачалося гэта з канца 20-х гадоў.

Палітычныя мэты тэрору падмацоўваліся "гаспадарчым разлікам", і рэпрэсіі ў вачах правадыроў дзяржавы атрымлівалі дадатковае абгрунтаванне. І ў гэтым выпадку, несумненна, Сталін дзейнічаў усвядомлена і разважліва. Перад ім была мэта — канчаткова ўціхамірыць грамадства, стварыць магутную ваенную прамысловасць і стаць адзінаўладным дыктатарам гэтай самай вялікай у свеце дзяржаўнай машыны. Да дасягнення гэтай мэты ён і ішоў, не задумваючыся аб метадах, не лічачы ахвяры, не зведваючы ніякіх мук сумлення.

Беспадстаўнымі з'яўляюцца тлумачэнні рэпрэсій выключнай помслівасцю Сталіна, звядзеннем асабістых рахункаў яго, Молатава, Берыі, Варашылава, Кагановіча, Маленкова і іншых з адным, другім, трэцім...

Так можна было знішчыць (фізічна ці палітычна) дзесяткі, сотні, тысячы, але не мільёны людзей. Вядома, знішчэнне ў такіх маштабах мела перш за ўсё канкрэтную палітычную накіраванасць.

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

ПАСЛЯ ЮБІЛЕЮ

# «ДЗЯКУЙ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ, ШТО МЫ ТУТ ЖЫВЕМ...»

Напрыканцы студзеня ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі адбыўся пашыраны сход Рэспубліканскага аргкамітэта па правядзенню мерапрыемстваў, прысвечаных 600-годдзю пасялення татар на землях Беларусі. На ім падводзіліся вынікі зробленага, аналізаваліся ўпушчэнні, планаваліся будучая праграма дзейнасці татарскай абшчыны.

Асаблівасцю праведзенага юбілейнага 1997-га года стала тое, што ўрачыстыя, святочныя і проста значныя падзеі, прымеркаваныя да шасцісотгоддзя, былі нібы "расцягнутымі" ў часе і ў прасторы — праводзіліся на працягу многіх месяцаў і прайшлі практычна праз усе месцы кампактнага пражывання татар на Беларусі. Як сказаў на сходзе муфцій Ісмаіл Александровіч, адзначаныя мерапрыемствы адбываліся пад знакам "аднаўлення справядлівасці". Што меў на ўвазе галоўны беларускі мусульманскі свяшчэннаслужыцель? У першую чаргу, вяртанне вернікам іх колішніх храмаў, будаўніцтва новых. Напрыклад, найважнейшай падзеяй стала адкрыццё мячэці ў Навагрудку, прычым у тым жа будынку і ў тым жа выглядзе, як і да вайны. Нядаўна ў Відзах мусульманам вярнулі дом, дзе таксама раней была мячэць. Аднак і зараз Ісмаіла Мустафавіча хвалюе лёс самай старой мячэці ў Еўропе, перавезенай у музей пад адкрытым небам пад Мінскам у Строчыцах. І нездарма так хвалюецца муфцій: пяць год ужо ляжыць гэты помнік архітэктуры ў разабраным выглядзе, і ніяк не дойдуць да яго рупліывя рукі навукоўцаў і будаўнікоў.

Вялікую падзяку выказалі на сходзе татары мясцовым уладам, якія дапамагалі чым і як маглі.

Як і ўсякая значная грамадская падзея, юбілей беларускіх татар-мусульман меў адпаведную цікавую мастацкую праграму. Намаганнямі Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур было арганізавана так званае вандроўнае свята — "Караван-Байрам". Яно прайшло праз Мінск, Навагрудак, Іўе, Смілавічы. Вось толькі Ліда, дзе, дарэчы, "мэрам" значыўся хан Тактамыш, пастаўлены на кіраванне князем, не знайшла магчымасцей адгукнуцца на прапанову арганізатараў святкавання. А святы атрымаліся добрыя, са спалучэннем нацыянальных і сучасных традыцый. У Навагрудку яно, дарэчы, прайшло на старым замчышчы. Адбыліся відовішчныя тэатралізаваныя шэсці татарскіх коннікаў, спаборніцтвы барцоў, лучнікаў, прапаноўваліся стравы нацыянальнай кухні. Вось толькі (паскардзіўся дырэктар цэнтра Віктар Мацюшэнка) не хапіла грошай на шатры і феерверк. Шкада, тым больш, што менавіта татарскія воіны ўпершыню выкарысталі ў баі піратэхнічныя сродкі — дымавую заслону.

Свята завершана, юбілей застаўся ў мінулым. Але тое, што адбылося, надало значны імпульс усёй нацыянальна адраджэнскай дзейнасці беларускіх татар-мусульман. І хоць работа гэта вельмі няпростая, яе трэба рабіць, бо нельга быць бязроднымі, падкрэсліў прэзідэнт нацыянальнага аб'яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб" А. -Б. Шабановіч. А яшчэ ён адзначыў тое разуменне з боку дзяржавы, якое знайшлі арганізатары ўсіх юбілейных мерапрыемстваў. Велізарную дапамогу аказаў татарскай абшчыне Дзяржкамітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей, яго спецыялісты. Усе прысутныя неадноўчы шчыра дзякавалі ім за гэта. Але галоўная падзяка, здаецца, прагучала з вуснаў вучонага, гісторыка Ібрагіма Канапацкага, які сказаў наступнае: "Дзякуй, беларускаму народу і беларускай зямлі, што мы, татары, ужо 600 год жывем тут — мірна і шчасліва".

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

НАМ ПІШУЦЬ

# «ПРА ЎСЁ СКАЗАЦЬ ПРЫЙШЛА ПАРА»

*Але нам будуць усё мілейшы*
*Часы, калі з нізін балот*
*З надзеяй у шчаснасць дзён святлейшых*
*Устане ўзбуджаны народ.*

**Уладзімір ЖЫЛКА.**

У Таварыства беларускай культуры Літвы, якім на працягу многіх гадоў кіруе спадар Хведар Нюнька, адбываюцца імпрэзы, прысвечаныя вядомым дзеячам культуры, якія жылі ў Заходняй Беларусі, іх дзейнасць звязана з Вільняй. Такім чынам захоўваецца памяць, успамінаюцца старонкі гісторыі Бацькаўшчыны.

Першая імпрэза ў новым годзе прысвечана святарам — Вінцэнту Гадлеўскаму, Адаму Станкевічу і паэту Уладзіміру Жылку.

В. Гадлеўскі скончыў каталіцкую духоўную семінарыю ў Вільні, потым Пецярбургскую духоўную акадэмію. Ён адзін з першых святароў, які пачаў гаварыць казанні па-беларуску, уваходзіў у склад БНР, заснавальнік Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, нейкі час працаваў пробашчам у касцёле мястэчка Жодзішкі, што за сто кіламетраў ад Вільні. А з 1929 года жыў у Вільні ў тым дамку, у якім праходзіла імпрэза, прысвечаная яго памяці. У Вільні ў 1939 годзе выдадзены Новы Запавет на беларускай мове, перакладзены В. Гадлеўскім. У 1998 годзе спаўняецца сто гадоў з дня яго нараджэння, а напрыканцы мінулага (24 снежня) споўнілася 55 гадоў, як быў закатаваны.

Святар Адам Станкевіч — рэлігійны і палітычны дзеяч, гісторык, выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі, быў старшынёй Таварыства беларускай школы, адзін з заснавальнікаў друкарні імя Ф. Скарыны ў Вільні. Пра святароў В. Гадлеўскага і А. Станкевіча, якія шмат зрабілі для беларускай культуры, распавёў доктар Сяргей Карабач, асабліва шмат было сказана пра асобу В. Гадлеўскага.

У пачатку гэтага года спаўняецца 65 гадоў з дня заўчаснай смерці Уладзіміра Жылкі. Як паэт, ён стаў вядомы шырокаму колу чытачоў зусім нядаўна.

Тут, у Вільні, ён працаваў у беларускай кнігарні, падтрымліваў створаную пры беларускай гімназіі тэатральную майстроўню, супрацоўнічаў з "Беларускімі ведамасцямі" і "Нашай думкай", якія выдаваў Максім Гарэцкі, гэта быў прагрэсіўны друк. Летам 1922 года, каб пазбегнуць праследаванняў і прызыву ў войска Жалігоўскага, які абвясціў Віленшчыну "Рэспублікай сярэдняй Літвы", выехаў у Прыбалтыку, некаторы час паэт лячыўся ў літоўскім санаторыі Бірштанас. Наладжваў сувязі паміж віленскім асяродкам вызваленчага руху і беларускім зямляцтвам у Прыбалтыцы. Нелегальна вярнуўся ў Вільню, працаваў у галіне журналістыкі з Л. Родзевічам, які і накіраваў У. Жылку на вучобу ў Пражскі універсітэт. Творчая сталасць прыйшла ў заходнебеларускі перыяд жыцця паэта. Вядомасць прынеслі паэма "Уяўленьне", зборнікі вершаў "На ростанях" і "З палёў Заходняй Беларусі", выдадзеныя ў Вільні. Зберагаюцца ў бібліятэцы АН Літвы.

У 1931 годзе асуджаны на 5 гадоў пазбаўлення волі, высланы ва Уржум Вяцкай губерні, дзе і памёр ад туберкулёзу лёгкіх першага сакавіка 1933 года. У сваёй паэме "Тэстамент" У. Жылка пісаў, што вельмі любіць Вільню і хацеў бы быць пахаваным на могілках Росу. Але злая рука НКУС закінула далёка ад радзімы. Знясілены холадам, голадам, хваробай, памёр у адзіноце.

Калі я рыхтавалася да гэтай імпрэзы, прачытала матэрыялы пра У. Жылку, якія ў мяне былі. Трапілі мне ў рукі ўспаміны Я. Кіпеля, такога ж палітычнага вязня. Ён пісаў: "Бяжыць суровая Вятка. Чытае свае вершы Уладзімір Жылка. Мы, сцяўшы зубы, яшчэ мацней налягаем на вёслы, бо ў нас не згасла вера ў тое, што нашая ідэя правільная. Мы цвёрда перакананы, што наш народ скіне гвалтоўную маскоўскую ўладу і Беларусь зробіцца вольнаю і самастойнаю". ("Беларуская моладзь", Нью-Йорк, 1962 г.).

У вершах Уладзіміра Жылкі боль за радзіму, змаганне за шчасце свайго народа, вечная тэма кахання. Яны гучаць сучасна і актуальна і сёння.

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільня.

НАТАТКІ КРАЯЗНАЎЦЫ



Святло постаці Коласа, неўміручая яго спадчына падружылі з Балачанкай многіх людзей адметных, неардынарных, пісьменнікаў, мастакоў. Бывалі ў Балачанцы Іван Чыгрынаў, мастак Аляксей Марачкін, паэт Алесь Пісьмянкоў, краязнаўцы Анатоль Ярохін, Браніслаў Зубкоўскі...

Свой успамін пра Балачанку пакінуў і паэт Мечыслаў Шаховіч — у вершы "Балачанка". Праўда, успамін пра рачулку Балачанка.

**Раскажы, раскажы, Балачанка,**
**Як, бывала, жніўеньскім ранкам**
**Тут з кашолкаю Колас хадзіў,**
**Як сасонкі яго сустракалі,**
**Як з празрыстых, крыштальных хваляў**
**Ён бальзам-прахалоду піў.**

Гаворачы пра Балачанку, нельга не сказаць і пра верш Коласа "Зімой у Балачанцы":

# ЗА ЦІТАЎКАЮ – СЛАБАДА

**Пад белаю страхою стаіўся пасёлак,**
**Прымоўклі навокал лясы.**
**Мільёны, мільярды халодных вясёлак**
**Убралі снягоў абрусы.**

Цеплыня, роднасць ідуць ад гэтых зімовых коласаўскіх радкоў. Яе цеплыня — і ў лісце да Таісіі Мікалаеўны Ганчаровай: "Дарагая Таісія Мікалаеўна Ганчарова! Вельмі дрэнна адчуваю сябе. Мне цяжка хадзіць — ногі стамляюцца. Караліпчавіы ў 20 кіламетрах ад Мінска. Я называю іх тундрай. Там вельмі дзікі лес...

Затое цудоўны куток Балачанка. Я там быў некалькі разоў. Баравікоў такое мноства, што і я рэдка помню такое. Збіраў грыбы, успамінаў мінулае, калі Вы з Макай таксама былі там. Ніяк не забуду, як Вы, пераплыўшы Балачанку, дасталі на другім беразе "Праўду", якую скінуў з самалёта Барыс Паўлавіч Макарцаў". Сапраўды, пра Балачанку Колас пісаў з цеплынёю.

Беразянка... Няма, прапала, сышла з быцця Беразянка. Толькі велізарны, шматаблічны лясны масіў паранейшаму завуць Беразянкай. А ў ім ужо ёсць і Старынка, і Жалезінка, і шмат яшчэ якія мясціны, пазначаныя даўней народжанымі мікратапонімамі. Гібенне, знікненне Беразянкі заклала Вялікая Айчынная. Фашысты ледзьве не заспелі партызан. Тыя ж, адпачыўшы, уцяклі. А вось гранаты разам з пінжаком у сенцах адной з хат пакінулі. Раз'юшаныя гітлераўцы ўсіх сагналі ў хлеў, падпалілі... Тойсёй з вяскоўцаў здолеў праз акно ўцячы. Расказваюць, што немецкі вартавы глядзеў на ўцекачоў і страляў угору... І ў Беразянцы таксама летаваў дзядзька Колас, збіраўся будаваць тут дачу. Ізноў жа звернемся да Міколы Жыгоцкага: "Два апошнія перадваенныя леты пісьменнік правёў у пасёлку Беразянка (8 км на поўдзень ад Пухавіч). Спачатку адно лета жыў у хаце Лявона Шчэрбы, потым на другім канцы пасёлка — у селяніна па прозвішчы Карлюкевіч. Працаваў тут пераважна над п'есай "Вайна вайне".

Пра Беразянку — і ў паэме Якуба Коласа "Рыбакова хата":

**На бераг Свіслачы, пад Вусце,**
**Я перайду на нейкі час,**
**У ціхі кут, у захалусце,**
**Што ўжо апісваў я не раз,**
**Але ні разу як належыць**
**Я Беразянкі не крануў,**
**Мае ж сляды яшчэ ў ёй свежы —**
**Я адчуваю тут віну,**
**Мне Беразянка, прызнаюся,**
**Сваёй паэзіяй глушы**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 4—5.**

**Напамінае Петрушы,**
**Куды я хутка зноў вярнуся.**

Беразянка, як трагедыя, што полымем сваім ускалыхнула боль на доўгія часы, прыцягвала і прыцягвае ўвагу многіх творцаў, людзей нераўнадушных. Яшчэ ў снежні 1943 года партызанская паэтэса Яніна Крайнік напісала верш пра трагедыю лясной вёскі — "Якубу Коласу" (у падзагалоўку — "Голас з Беразянкі"). У форме ліста да народнага песняра Яніна Крайнік расказвае пра трагедыю лясной вёскі:

**З пажаўцелых кустоў ды з халоднай зямлянкі**
**Рвецца голас к табе, дарагі наш пясняр.**
**Голас тых, хто застаўся жывы з Беразянкі,**
**Расказаць, што зрабіў з ёй чужынец-дзікар.**
**Ты любіў наш куточак зацішны, прывабны,**
**Што над Свіслаччу ветла ўдаль паглядаў.**
**Яго гордасць, красу — лес высокі і зграбны,**
**Што так беражна вёску вакол абнімаў.**
**Той прастор, што ўшыр за ракой адкрываўся,**
**Луг чароўны з вянкамі купчастых кустоў —**
**Дзе вусцянскі грудок велічава ўзняўся**
**З балачанскіх пясчаных сухіх берагоў.**
**Таямнічы "Кручок" з векавымі дубамі,**
**Што ў вусці дзвюх рэк прытаіўся, урос,**
**Там, бывала, пясняр, ты праходжваў часамі,**
**Любаваўся не раз харАводамі лоз.**
**А цяпер нават страшна туды азірацца,**
**Абгарэўшыя печы жахліва глядзяць,**
**Нават птушкі аголеных нерваў баяцца,**
**Пралятаюць над вёскай, жалобна крычаць.**
**Цяжка слёзы стрымаць нам і гора забыцца...**
**Гэткіх здзекаў, што толькі маглі бы прысніцца,**
**Шчэ ніколі не чуў беларускі народ.**

Сваю душэўную, сардэчную, балюча-пякучую, трывожную песню прысвяціў Беразянцы і Алесь Пісарык, пухавіцкі паэт, чыя бацькаўшчына — не меней шматпакутная Дукора.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Якуб КОЛАС на Пухаўшчыне.**

ВЫСТАВЫ





**У музычнай гасцінай у Віцебску ў канцы мінулага года працавала персанальная выстава работ мастачкі Таццяны Беразоўскай. Яшчэ ў студэнцкія гады яна захапілася графікай і да гэтага часу застаецца вернай алоўку і тушы.**

**НА ЗДЫМКАХ: Таццяна БЕРАЗОЎСКАЯ і яе работа.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

## УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!

*Адышлі... Адыходзяць... Адыдзем...*

*Назаўсёды!*

*Такі непахісны закон.*

*І ўсё ж як адчайна не хочацца змірыцца з гэтым непахісным "назаўсёды"!*

*Чалавек радаваўся, пакутаваў, тварыў... Чалавек жыў!*

*І хіба гэтага недастаткова, каб ён застаўся? У памяці, у душах, у сэрцы тых, хто ведаў яго, хто з ім сустракаўся, хадзіў па адных вуліцах?..*

*Успамінайма пра іх!*

## «ЛЕС АДПАЛАЎ І ЧОРНЫ СТАЎ АД СТРАТЫ...»

Пра паэтаў немагчыма гаварыць прозай. Пра паэтаў трэба гаварыць і спяваць толькі вершамі...

**Стаю на ростанях, адзін, а ў паднябессі**
**Самотным жаўранкам звініць і плача май...**

Аркадзь Куляшоў... Хто не ведаў гэтага імя ў беларускай літаратуры? Якая паэтычная вышыня з яго сучаснікаў-паэтаў здольная была засланіць яго Славу? Яго вядомасць... Хоць у жыцці ён ніколі і нідзе не імкнуўся абавязкова стаяць з імі побач, на вачах у людзей, "рабіць уражанне"... Як ні дзіўным гэта здаецца, але ён ніколі не мардаваўся за ўрачыстымі чырвонымі сталамі ў прэзідыумах... Адзін толькі яго "прэзідыум" запомніўся, калі святкавалася ў Акадэмічным тэатры Янкі Купалы яго 60-годдзе і калі яго сябры-каўказцы Кайсын Кулieў і Расул Гамзатаў урачыста апраналі яго ў свае нацыянальныя буркі і над яго пасівелай ужо галавой узносілі, як арліныя гнёзды, чорныя каракулевыя папахі... Гонар мужчыны!

Болей таго, ён вельмі рэдка, хіба толькі ў нейкіх выключных выпадках, наведваў пісьменніцкія сходы. Ён ніколі не ўдзельнічаў у бясконцых гаварыльнях таварышаў-творцаў, прысвечаных розным з'ездаўскім і пленумаўскім "гістарычным падзеям", услаўленням "дасягненняў". Не цярпеў і не выносіў усю гэту "суету сует"...

"Ёсць у паэта свой аблог цалінны"... — спавядаў ён і да апошняга дня служыў гэтаму "цаліннаму аблогу"... Вершы. Паэмы. Паэмы. Вершы... Яны былі найбольшай яго Любоўю, калі прыходзілі да яго. І найбольшай пакутай, калі на нейкі час ад яго адступаліся.

**Я гіну ад бяздзейнасці не месяц,**
**Не два. Не тры... Як быццам хто закляў!**
**Я сам сябе гатоў хутчэй павесіць,**
**Чым існаваць для непатрэбных спраў.**

...Захацелася перачытаць Аркадзя Куляшова. Зняла з паліцы пасмяротную ўжо яго кнігу вершаў і паэм "Маналог" у выдатным афармленні мастачкі Ларысы Мележ. І адгарнула, як звычайна прыступаюся да кнігі, на выпадковай старонцы.

**Лес адпалаў і чорны стаў ад страты.**
**Агонь з галін абсыпаўся ўначы.**
**Завея гоніць лісцяў абручы...**

...Ён памёр уначы. У Нясвіжы. У былым замку князя Радзівіла. Там ён любіў адпачываць. Там добра і натхнёна яму пісалася.

...Лес адпалаў і чорны стаў ад страты...

Агонь з галін абсыпаўся ўначы... І ў знакамітым князевым парку лютаўская завея гнала абручы знямелага лісця...

А душа Паэта ўсё ўзносілася і ўзносілася.
Усё аддалялася і аддалялася...
Дзе ЯНА цяпер?..

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

# КАБ ЗЛІТАВАЎСЯ ЛЁС НАД КРЫВІЧАМІ ДЫ ЛІТВІНАМІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ў спектаклі купалаўцаў ёсць. Я загаварыў было пра тое пасля спектакля ў даволі іранічным тоне, але мой субяседнік, які лепей за мяне арыентаваны ў гісторыі старажытнай Беларусі, абарваў мяне на паўслове.

— Ды пасля такога відовішча наўрад ці знойдзецца глядач, нават страшэнна самазадаволены невук, чыё сэрца не затрапечацца ўпотай ад аднаго гэтага імя — князь Вітаўт.

І на мяне абрынуўся Ніягарай паток урачыстых слоў, ці не гімн у гонар Мельпамены наогул і нашага Купалаўскага тэатра, яго свяшчэннага служэння і высокай патрабавальнасці да сваіх творчых абавязкаў. Асабліва, калі на падмосткі ён выводзіць — во як гэтым разам — беларускі пакутніцкі і ахвярны характар і смела раскрывае вулканічныя пачуцці герояў, што пасуюць да сапраўды шэкспіраўскіх... Я пачуў ад майго звычайна такога ціхмянага прыяцеля і высокі водгук на паводзіны глядзельнай залы падчас спектакля. Аказваецца, ён адчуў, як наша тэатральная публіка робіцца спагадлівай і сумесна са сцэнай стварае пашанотную атмасферу хвалюючага відовішча.

Якраз у ёй, гэтай атмасферы, нараджаецца поўны давер да сцэнічнай версіі прыгод, змагання і пакут князя Вітаўта. І калі мы горача апладзіруем артысту Генадзю Давыдзьку за яго выкананне вельмі складанай ролі, дык выказваем тым і гонар... Так-так, убачыўшы такі жывы і запальны парыў высакароднага ваярына і рупліўца ў звілістым гістарычным руху да стварэння дзяржавы, здатнай абараняць дабрабыт і духоўную самабытнасць народа... Калі на гэтым узвышэнні-подыуме прамяністы позірк нібы праз вякі сягае да нас, нашчадкаў, а ўсхваляваны голас абвяшчае... Як ён сказаў? "Жыві і веруй, мой святы народ, Ты ўсклаў на галаву маю карону, і абавязак княства зберагчы, Абараніць людзей ад злых напасцяў..." Урачысты настрой аб'ядноўвае сцэну і залу.

Гэта тыя дарагія імгненні, дзеля якіх і варта хадзіць у тэатр. Бо ўзаемны магнетызм — акцёрства на падмостках і ўзрушанай відовішчам залы — яднае эмацыянальны стан і накірунак інтэлектуальнага роздуму людзей. Пра час. Пра гістарычны лёс народа. Пра лёс адзінкі ў гістарычным развіцці, ва ўздыме і ў падзенні дзяржаў, тронаў, карон...

За колькі дзён перад прэм'ерай "Вітаўта" я слова за словам разгаманіўся з Валерыем Раеўскім. Нат дазволіў сабе падпусціць шпільку галоўнаму рэжысёру тэатра. Маўляў, вось надарылася Аляксею Дудараву займацца перакладамі на беларускую мову і лапідарным сцэнічным рэдагаваннем Шэкспіравых трагедый "Рычард Трэці" і "Гамлет" і закарцела драматургу самому павастрыць пяро ў жанры высокай трагедыі. Паэт абудзіўся ў ранейшым аўтары псіхалагічна праўдападобных і жыццёвых п'ес. Мо адчуў ён і падхапіў Шэкспірава ўяўленне пра пафас паэтычнага пераўвасаблення гістарычнай хронікі ў сцэнічную драму. Высока замахнуўся!..

Хітравата ў адказ усміхнуўся галоўны рэжысёр Купалаўскага.

— Яно і сапраўды, — развёў ён рукамі, — заглыбіўся ды разглядзеў на святло ўсю алхімію тэкстаў Шэкспіра, і, відаць, прыйшло ў галаву: "А ці не паспрабаваць і нам?" І тэатр разам з нашым ужо драматургам (прыгадваецца — "Радавыя", "Парог", "Вечар", "Апошні журавель") адчуў, што цяперашні час вымагае ад мастацтва жывога асэнсавання некаторых гістарычных урокаў. Успомнім жа і давайце не будзем забываць пра Беларуска-літоўскі летапіс, пра гэты вельмі цікавы дакумент гісторыі ўсходніх славян і Літвы. Разгорнем ці не самыя патэтычныя старонкі таго летапіснага зводу — "Пахвалу Вітаўту". Якая запаляючая інтрыга! Які высакародны герой! Што за дэтэктыўны сюжэт! Пераклічка з тымі страсцямі змагароў за трон, што і завуцца — шэкспіраўскімі. Аляксей пісаў п'есу натхнёна, я гэта ведаю. А натхненне — калі сіла таленту ўзвышае цябе над сумневамі і збянтэжанай бояззю стаць у сваіх намерах упоравень з класічным узорам...

Так пра маючую адбыцца прэм'еру выказваецца горача зацікаўлены рэжысёр. Чалавек, які выступае разам з аўтарам творчым змоўшчыкам, саўдзельнікам агульнай справы, пачынаючы з першапачатковай сюжэтнай задумы п'есы.

І з першых акордаў тэатральнага відовішча, калі перад намі паўсталі муры замка і навакольны лес, а паміж дрэвамі закружылі ў казачна лёгкім карагодзе прыгажуні беражніцы, шчыра прызнаюся, мне стала сорамна за свае заўчасныя кплівыя шпількі. Сцэна спакваля захапляла, брала ў палон тваё ўяўленне, тваю фантазію, і хоць ніякіх лясных дрэў там не было, як і замкавыя муры падаваліся ўмоўным намёкам, я дамалёўваў у думках і ўнутраным зрокам бачыў шчодрую прыроду і велічнае збудаванне.

Беражніцы тым часам прарочаць прыгожаму асілку Вітаўту рамантычнае каханне і вядуць яму насустрач мілую Алену: "Яна князёўна ў каханні", — спеўна гучыць хор дзяўчат. Блізкая любая кружыць галаву мужнаму ваяру, прадчуванне шчасця поўніць яго душу. Веліч княжацкай асобы ўлагоджваецца рамантычным трапятаннем чалавечага сэрца, і Вітаўт робіцца ўпадабаным гледачамі героем відовішча.

Я сказаў бы, опернага размаху, маляўнічага відовішча. І дасягаецца той эфект характва ў драме-паданні, у сцэнічнай легендзе пра даўніну, які прымушае цікаўнага гледача забыць пра свае пытанні наконт таго, ці так усё яно і было тады ў рэчаіснасці — на ўзлессі паблізу Гародні ў ноч на Купалле ў год адна тысяча трыста восемдзесят другі... ці такі быў вонкавы выгляд, адзенне, амуніцыя, прычоскі герояў у той далёкай рэчаіснасці. Зараз гэта рэчаіснасць ажывае ў паэтычна-тэатральным увасабленні. Тое, што робяць у спектаклі рэжысура і акцёры, называецца адухаўленнем мінулага. Бо сённяшнім выканаўцам роляў удаецца ўдыхнуць жывую душу ў персанажы апаэтызаванай легенды.

Спектакль без антракту. Гэта каб відовішча не адпускала ні на хвіліну глядацкае ўяўленне з палону прыгажосці ў сцэнаграфіі (мастак Барыс Герлаван) і ў выразнай апантанасці галоўных дзейных асоб — Вітаўта (Г. Давыдзька) і Ягайлы (М. Кірычэнка). Прыгажосць аздабляе і робіць прываблівымі пантамімічныя эпізоды з іх пераходамі ў танцавальныя карункі, што плятуць дзяўчаты-беражніцы. Па-сучаснаму стылізавана падаецца дзівоснае ігрышча, якое нагадвае нам і пра наша паганскае паходжанне, і пра хрысціянскія абрады ў беларускіх паселішчах.

Спалучэнне змрочных замкавых муроў з жывымі постацямі апранутых у празрыстыя, вясёлкава расквечаныя тунікі прыгажунь у вянках надае асабліва трагедыйнае адчуванне самога жыцця. Яно бы праменьчык святла, які мільгне сярод глыбокай цемры ночы на які адзіны момант, што адведзены табе на тым балю, куды цябе няведама хто запрасіў... пробліск прытомнасці сярод таго змроку, які доўжыцца вечнасць. З'ўляецца адчуванне, быццам мімалётнае ў параўнанні з гісторыяй жыццё асобнага чалавека, якім бы яно ні было складаным і драматычным, гэта ўсё-такі свята, калі жывая істота спрабуе ўвабраць у сябе натуральную вонкавую радасць і выявіць сваю ўласную, тую, што завецца радасцю існаваць, радасцю быць.

Вядома, не толькі радасць. Ягайла сам-насам вылівае з сябе пачварную прагу ўлады над усім і над усімі ў княствах крывічоў і літвінаў, ляхаў і жамойцаў. І яго сіла жывіцца пагардай да простанароддзя. Тутэйшыя людзі для яго, як гэта жахліва выпучае ў сваім героі М. Кірычэнка, — шэрая зграя невукаў, запальчывая і лёгкаверная, схільная да разбурэнняў і рабунку. З якім зларадным пафасам вымаўляецца тырада Ягайлы, калі чуецца пагалоска, быццам увесь люд у Вільні і ў Троках адрокся ад прысягі Кейстуту: "Я ведаю паскудны свой народ. Ён прысягае татарыну і турку. Паляку і тэўтонцу. Маскавіту і Залатой Ардзе. Таму, хто зверху будзе... хто абдзярэ дашчэнту". Забойца і падманшчык, прагны да каралеўскай кароны, гатовы ледзь ці не літаральна ўзысці на трон па трупах, гэты драпежнік прадстае як носьбіт сацыяльнай этыкі пануючых вярхоў у тагачаснай іерархіі. Артыстычна тое раскрываецца М. Кірычэнкам вельмі тэмпераментна.

Пагарда Ягайлы да людзей, нават адданых яму, выглядае ў М. Кірычэнкі звышчалавечай, д'ябальскай. Ці змірацца з такім каралём ягоныя васалы, падданыя, залежныя ад яго і прыгнечаныя ім? Той народ, ад імя якога ён правіць...

О, гэта ў спектаклі дадзена даволі выразнымі штрыхамі. Прыклады па-простанароднаму наіўнай палітычнай пранікліваcці і нат дзяржаўнай мудрасці ўвасоблены ў амаль камедыйным дуэце Першага і Другога селяніна і ў трагедыйным Рамесніку. Як хораша, што Павел Дубашынскі, Арнольд Памазан і Генадзь Гарбук не пазбягаюць псіхалагічна-бытавых інтанацый у абмалёўцы народных тыпаў. Нездарма іхняе выкананне эпізадычных роляў зала, бывае, ухваляе апладысментамі.

І ўсё ж у перыпетыях драмы прадстаўнікі народа самастойнай і тым больш — рашучай сілы не набіраюць. Мо так яно і было ў гістарычна далёкія часы? Бадай, нам больш блізкае меркаванне пра народ, што вызначае канчатковы вынік грамадскіх зрухаў, як пра тыя шалі, якія ўзвышаюць адных правіцеляў, абавязкова прыніжаючы адначасова другіх. Княжацкія ўсобіцы, у вір якіх уцягнуты Вітаўт і Ягайла, па-тэатральнаму нібы яшчэ раз нагадваюць нам пра ўпадабаны некаторымі гісторыкамі і палітыкамі імператыў наконт таго, што нацыя — гэта сапраўды нешта згуртаванае і адзінае толькі перад агульнай пагрозаю агульнага для ўсіх ворага-заваёўніка. Адтуль, здалёку, з чатырнаццатага стагоддзя, тэатр здабывае і набліжае да нас спрадвечную спрэчку аб долі просталюдзінаў у тых палітычных змаганнях, што пачынаюць і вядуць уладары, манархі, каралі, правадыры, фюрэры, султаны, прэзідэнты, імамы... Палкаводцы!

Па-тэатральнаму выразна, па-акцёрску кідка паўстаюць перад намі і героі гэтага спектакля. "Двуаблічны Янус" (гэта Ягайла) і "прыгожы рыцар" — Вітаўт.

Як спакуслівa было для Г. Давыдзькі і М. Кірычэнкі задаволіцца плакатным выяўленнем адной галоўнай рысы ў сваіх персанажах. Да гонару акцёраў, яны ў абмежаваным тэрміне жыцця на падмостках паспяваюць раскрыць і жывую пераменлівасць настрою, і натуральныя сумневы, і страшэнны стан адзіноты ў гэтых дзейсных натурах. Напрыклад, Ягайла мае не абы-які розум, здатны не толькі прадбачыць пагрозу ягоным пажадлівым імкненням, але і распаліць агеньчык жаданай помсты ў полымя апантанага зладзейства.

Магічная тэатральнасць прываблівае гледача нават у сцэнах забойства памагатымі Ягайлы альбо ім самім князя Кейстута і каханай Вітаўта — Алены, Дамаша, які асмеліўся кінуць каралю-крывасмоку: "Не можа быць

народзе наш Іудай, Дый ты ўжо не раўняй сябе з Хрыстом", і стражніка Акуліча... У адным баку сцэны — паслухмяны кат сціскае кінжал. З другога — асуджаны загінуць. Ягайла падае знак... вымаўляе слова... круціць галавой... Узмах кінжала! І асуджаны нібы агортваецца змрокам. Постаць забітага з гэтага змроку ціхамірныя пасланкі Харона вядуць бы да брамы Аіда, міфалагічнага царства мёртвых. У затуманеную прыгажосць таго свету...

У дэкарацыйным афармленні "Князя Вітаўта", як кажуць у закуліссі, "іграе" ўся прастора сцэны — ад каласнікоў да планшэта і падоўжанага ў партэр подыума. Аркі і нішы, замкавая плошча ў Вільні і ўзлессе на беразе Нёмана, княжацкія пакоі ў Троках і царкоўны цвінтар — гэта ўсё не так паказана на падмостках, як падказваецца нашаму глядацкаму ўяўленню. Бліскучая знаходка — рухомыя сцены-муры, якія то нібы адкрываюць дзядзінец старажытнага горада з вежамі, то звужаюцца да цеснага калідора альбо катавальнай камеры, дзе адыходзяць у нябыт асуджаныя на пагібель няўмольным лёсам. На фоне гэтага строгага каларыту нечаканыя прасветы ў мурах зіхацяць звабным хараством адзенне персанажаў. Тут пануе тая прастата і грунтоўнасць, што павінны былі б панаваць і ў жыцці крывічоў, радзімічаў, ляхаў, літвінаў.

Падчас спектакля і ў галаву не прыйдзе засесці потым за навуковыя фаліянты ды старажытныя манускрыпты дзеля параўнання ўбачанага з гістарычным сведчаннем. Тэатральны міф захапляе гледачоў, хвалюе напалам жывых пачуццяў, прымушае нас дыхаць разам і сумесна з рамантычна ўзвышаным героем, начыста вызваляючы ад разумовага сумневу. А канец XX стагоддзя зрабіў з нас дужа цвярозых недаверкаў. Бо надта высокія куміры звалены з п'едэсталаў. Бо вельмі прыгожыя і праўдападобныя міфы аказаліся фальсіфікацыяй і падманам. Сапраўды, сучаснае грамадства тлумачыць пэўны ўпадак духу ў шырокіх колах тутэйшых насельнікаў як своеасаблівую расплату за гэтую спрадвечную звычку людзей ствараць сабе і пакланяцца кумірам ды цешыцца легендарнымі паданнямі аб велічы свайго радаводу.

Спрачацца з тым дарэмна. Расплачваемся!..

Ды толькі ў прыродзе чалавека жыве тое асвячонае высокай марай жаданне бачыць у першапачатковым вераванні народа — у міфе — вытокі свайго стаўлення, свайго паходжання, сваіх багоў і герояў. Уяўленне ператвараецца ў вызнанне. І легенда, бывае, уладарна аспрэчвае самыя даведныя падручнікі, складзеныя археолагамі, гісторыкамі, знаўцамі мінуўшчыны. Цікавыя міфы надаюць нашаму ўяўленню цвёрдую свядомасць, і тады казка-паданне ўспрымаецца намі як непадробнага хараства самацвет, у якім тоіцца, хаваючыся ад даследчыкаў, сапраўдная існасць, вызначаная цнатлівай народнай мудрасцю.

Мяне не здзівіць гарачае пярэчанне падобным маім разважанням. Ды і раблю я іх пад уражаннем не аднаго прагляду спектакля "Князь Вітаўт". Купалаўцы ім па-свойму адказваюць на тое ненатольнае жаданне сучасных людзей дазнацца пра свой радавод не па-кніжнаму, а праз эмацыянальнае ўзрушэнне. І найвышэйшы творца, робячы загад вычаканіць у скрыжалі як другую запаведзь вядомае ўсім: "Не рабі сабе куміра і не ствярай ніякага вобраза таго, што на небе ўверсе, што на зямлі ўнізе і што ў вадзе ніжэй зямлі, — не пакланяйся ім і не служы ім", — пэўна ўсведамляў, як часта такая тамліва прывабная спакуса будзе праследаваць да скону дзён і звычайнага смерда, і адукаванага дзяржаўнага мужа. Нам бы навучыцца адрозніваць спекулятыўную фальсіфікацыю ў міфах ад здаровага жадання аблюбоўваць у легендзе ўзоры сумлення і геройства, якія ведае наша сівая старажытнасць і нядаўняе мінулае.

І такі ўрок дае Купалаўскі тэатр гэтым хвалюючым, дынамічным, дзівосна прыгожым сцэнічным творам.

**Барыс БУР'ЯН.**

# ЗАПОЗНЕНЫЯ ПРОМНІ ЗГАСЛАЕ ЗОРКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

кой выставы ў нас яшчэ не было. Але яе каштоўнасць і ў тым, што, збіраючы старыя фотаздымкі, М. Раманюк бачыў у іх не толькі дакумент эпохі, але і мастацкі фотатвор. Будучы мастаком, мастацтвазнаўцам, этнографам і фотамастаком у адной асобе, Міхась адбіраў менавіта тыя фота, дзе бачыў мастакоўскі падыход былога фотамайстра пры адлюстроўванні людзей, падзей, краявідаў і нават цэлых панарамных карцін.

Адабраныя для выставы сынам Раманюка — Дзянісам з калекцыі бацькі фота сведчаць, што мастацкая фатаграфія пачала развівацца на Беларусі з 90-х гадоў XIX стагоддзя. У гэтых фатаграфіях Міхась Раманюк заўважыў, што метад контражура шырока выкарыстоўваўся ўжо ў 1899 годзе. Глядач мог пераканацца ў гэтым, убачыўшы групавы дзіцячы партрэт С. Блажко (фатаграфія зроблена ў Хоцімску Гомельскай вобласці ў 1899 годзе). У ім контражурнае святло падае праз шырокія вокны, паміж якімі сядзіць у плеценым лазовым крэсле малалетні хлопчык у модным для тых часоў матроскім касцюмчыку і напружана ўглядаецца ў фотааб'ектыў. Побач з ім і за ім стаяць тры старэйшыя за яго дзяўчынкі, апранутыя ў аднолькавыя сукенкі, пашытыя з "крамнай" матэрыі ў "кратачкі", а злева ад яго стаіць старэйшая за ўсіх стромкая дзяўчынка-падлетак у элегантнай аднатоннай сукенцы. Дзеці не па гадах сур'ёзныя і ўдумлівыя. Да таго ж Міхась сабраў і цікавыя гістарычныя звесткі пра аўтара гэтага фота. Ім аказаўся беларус, ураджэнец Хоцімска, вядомы ў Расіі астраном, акадэмік Расійскай акадэміі навук С. Блажко, які зрабіў гэта фота ў час наведвання сваёй хоцімскай радні. Мяркуючы па кампазіцыйным размяшчэнні мадэляў групавога партрэта, у крэсле сядзіць малалетні сын акадэміка сярод сваіх дваюрадных сясцёр, што падкрэслена як розпасцю іх размяшчэння, так і адзеннем дзяцей, іх паважлівым стаўленнем да хлопчыка, які сядзіць у крэсле.

Другое фота С. Блажко таксама ўяўляе групавы партрэт, але ўжо з чатырох мужчын, якія сядзяць на доўгім бервяне на фоне садовых дрэў. А побач з бервяном расце рэдкай пароды саджанец, бо ён размешчаны ў высокай і шырокай кадцы. Відаць, узімку кадку з дрэвам заносілі ў дом. Тут контражурнае святло прабіваецца скрозь дрэвы, размешчаныя з правага боку, з-за асобнага саджанца, які стаіць у кадцы.

Увогуле фатаграфіі С. Блажко шмат апавядаюць нам пра гэтых людзей і заможнасць сядзібы, дзе яны сабраліся разам, як блізкія людзі. Работа цікавая яшчэ і тым, што ў ёй пададзена псіхалагічная характарыстыка мадэляў. Перад намі тры мужчыны, абутыя ў гарадскія чаравікі-гетры і апранутыя ў элегантныя касцюмы (у тым ліку адзін у форме ляснічага), а чацвёрты, які сядзіць сярод іх у лапцях і вылучаецца нязвыкла высокім галаўным уборам накшталт цюрбана, апрануты вельмі дрэнна. На ім парваная і залатаная світка з сукна лямцаватага, з-пад якой выглядае расхрыстаны каўнер кашулі. Але менавіта на ім глядач, як і фатограф, засяроджвае свой позірк. Ад чалавека ў лапцях выпраменьваецца пэўнае пачуццё высокай годнасці, якой яўна не хапае гэтым тром элегантным мужчынам з абыякавымі позіркамі і соннымі тварамі піцерскіх франтаў, якія завіталі ў правінцыйную глухамань былой імперыі.

Святлом мякка мадэляваў 6.05.1914 года формы і рысы твараў сваіх заказчыкаў і барысаўскі фотамастак Н. Габай, што відавочна было па яго "Жаночым партрэце", наклееным на паспарту з дробнарэльефнымі адбіткамі яго чырвона-белага герба, пячаткі з яго ініцыяламі і яго ўзнагародамі: расійскай "За труды и знание" і польскай "TALBOT NIERCIE". Контражурным святлом, адбітым ад белай сцяны, карыстаўся ў 1920-х гадах давыд-гарадоцкі фотамайстар М. Зубей у двух групавых партрэтах, адзнятых у фотаатэлье пад маёй умоўнай назвай "Сядзячыя дзеці" (1920-я гады) і "Стаячыя маладзіцы" (1940-я гады). Цікава, што М. Зубей рабіў свае фотаздымкі не толькі ў фотаатэлье, але і на пленэры, ствараючы панарамныя кампазіцыі, напрыклад, у фота, зробленым 6 мая 1936 года "Дагарае давыд-гарадоцкая царква" ці ў фота 1920-х гадоў "Пахаванне", дзе



**Групавы дзіцячы партрэт С. БЛАЖКО.**

панарамна пададзена карціна побыту заможнага нябожчыка, праваслаўных звычаяў і абрадаў беларусаў у той час.

Больш таго, гэты фотамайстар цікавіўся і ўмовамі працы асабліва знакамітых у Беларусі і Польшчы рамеснікаў Давыд-Гарадка, ствараючы ў 1910-я гады кампазіцыю "Гарбары і шаўцы ў майстэрні", дзе маладыя рамеснікі і вучні-падлеткі паказаны сярод вырабленых імі скур, пашытых ботаў, абсталявання і прылад, якімі яны карысталіся. М. Зубей сродкамі мастацкай фатаграфіі быў летапісцам эпохі.

Фотамайстры Беларусі выкарыстоўвалі промні контражурнага святла і ў 1950-я гады, што бачна па здымку са Столінскага раёна пад умоўнай назвай "Маці з дзіцем", у якім кантражурным святлом мадэлюецца профільная выява твару маці, схіленай над немаўляткам. Фота нагадвае вядомыя рэлігійныя кампазіцыі "Мадонна з дзіцем".

Звярнулі на сябе ўвагу і вельмі інфарматыўныя па дэталях панарамныя кампазіцыі невядомых фотамайстроў "Будаўніцтва моста", 1900-я гады (11,5x17 сантыметраў) з Шаркоўшчынскага раёна і рамантычны здымак 1930-х гадоў з аўтарскім подпісам "Пінск. Базар на лодках" (6,5x31 сантыметр), зманціраваны з трох аўтарскіх негатываў, адзнятых адначасова, каб дасягнуць большай панарамнасці, паказу гэтага незвычайнага палескага краявіду з бязмежна аддаленым гарызонтам за прыгожымі даляглядамі нізіннай лукавіны ракі Піна і мостам праз яе.

Цікавымі падаліся фота, выдзеленыя мною ў групу "Сямейныя партрэты", па асобных дэталях з якіх можна ўявіць як сямейныя адносіны паміж мужам, жонкай і дзецьмі, так і стан матэрыяльнай культуры (адзенне, абутак, дойлідства) местачковай — "Сям'я каля ўваходу ў дом" (1900-я гады, Браслаўскі раён), вясковай — "Вясковая сям'я ў святочным адзенні" (1910-я гады, Гомельская вобласць), гарадской — "Маладая сям'я" (1910-я гады, г. Гродна) і хутарской — "Сямейнае свята ў хутарскім садзе" (1940-я гады, Браслаўскі раён).

Шмат інфармацыі па матэрыяльнай культуры беларусаў, асабліва па пакрою і аздобе світак і кажухоў, атрымаў збіральнік гэтай калекцыі, вывучаючы адбітак С. Харламовіча "Царкоўныя папячыцелі Воўчынскага прыходу" (1900-я гады, Камянецкі раён Брэсцкай вобласці). Неабходна падкрэсліць, што многія фотаадбіткі былі зроблены са шкляных негатываў фотакантактным метадам.

Параўноўваючы фота з калекцый М. Раманюка і У. Парфянка, удумлівы глядач мог заўважыць відавочную эвалюцыю ў галіне матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў на працягу аднаго стагоддзя. Сярод транспартных сродкаў замест коней (запрэжаных у вазы) глядач убачыў аўтамабіль, які стаіць у прыватным двары; замест сціплых мужчын у зашпіленых на ўсе гузікі кашулях, пінжаках і фрэнчах, сарамлівых позіркаў прыгожых і рамантычных жанчын, удумлівых позіркаў дзяцей канца XIX — пачатку XX стагоддзяў на фотатворах апошняга дзесяцігоддзя (1987—1997 гады) свядома акцэнтавалася ўвага на бруднасці чалавечых адносін у групавых партрэтах з пляжнай серыі Я. Мохарава "Узрост цьмяных жаданняў" (1991—1994 гады) ці з цыкла М. Бахара "Узаемаадносіны" (1989 год). Сучасныя фотатворы па форме і кампазіцыях наблізіліся да твораў графічнага і жывапіснага відаў мастацтва, набылі пэўны філасофскі змест. І гэта сведчыць аб эвалюцыі фотамастацтва ад дакумента эпохі да адвольнага мастацкага фотатвора. Але, нягледзячы на пэўную зашыфраванасць іх зместу, як напрыклад, у кампазіцыі Зоі Мігуновай "Без назвы" (1996 год), у якой мы бачым буйную, на ўвесь кадр лысую патыліцу мужчыны, ці ў творы Дзмітрыя Караля "Без назвы" (1977 год) наўмысна пададзены ў нярэзкасці плод перцу на белым фоне, у многіх кампазіцыях іншых аўтараў па-ранейшаму адлюстроўваецца псіхалагічны стан сучасных людзей і іх узаемаадносін. Праз іх глядач убачыў і змены ў псіхалогіі. Сучасныя фотамадэлі вельмі самаўпэўненыя, нават нахабныя. Яны не саромеюцца сваёй аголенасці, наадварот, дэманструюць яе з выклікам, бравіруюць сваёй разбэшчанасцю. І тут фотамастацтва зноў становіцца дакументам эпохі, нягледзячы на больш складаную мастацкую мову.

Такая вось атрымалася ў нас эвалюцыя беларускага грамадскага жыцця як матэрыяльнага, так і духоўнага за апошнія 100 гадоў. Да такой высновы прывяла нас фотавыстава, дзякуючы нястомнай збіральніцкай дзейнасці М. Раманюка. Калі перафразіраваць тэкст прэс-рэліза фотавыставы... святло, адбіўшыся ад рэальнага аб'екта, які быў змешчаны перад камерай фатографа ТАМ і ТАДЫ, дасягнула нас, датыкнулася да нас ТУТ і ЦЯПЕР, нібы "запозненыя промні згаслае зоркі" (Ралан Барт).

* * *

Не паспелі мы развітацца 9 студзеня з фотавыставай, як нас зноў паклікаў шаноўны Міхась на згаданую ўжо канферэнцыю ў яго гонар. На канферэнцыі было зачытана 18 вельмі цікавых навуковых дакладаў, значэнне якіх цяжка пераацаніць для развіцця сучаснай беларускай культуры як фальклорнай, так і прафесійнай. Доктар мастацтвазнаўства В. Шматаў прааналізаваў навуковую, грамадскую і мастацкую дзейнасць і творчасць М. Раманюка. Загадчык аддзела часопіса "Мастацтва" В. Вайткевіч адзначыў дзейнасць М. Раманюка як піянера ў мемарыялізацыі мастацтва фальклорнага касцюма ў энцыклапедычнай спадчыне. Пра ўклад Міхася Раманюка ў выяўленне і навуковы дослед мастацтва беларускай маляванкі гаварыў дацэнт кафедры жывапісу БелАМ А. Марачкін. Заслугі М. Раманюка як заснавальніка і галоўнага рэдактара часопіса "Мастацтва" адзначыла мастацтвазнавец Т. Гаранская. Тытанічную працу М. Раманюка па стварэнні ў Беларусі сцэнічнага касцюма праз кіруемую ім Камісію па сцэнічным касцюме пры Міністэрстве культуры БССР адзначыў старшы выкладчык кафедры гісторыі і тэорыі мастацтва БелАМ Г. Сакалоў-Кубай.

Вельмі каштоўнымі для развіцця сучаснага як сцэнічнага, так і звычайнага касцюма падаліся мне даклады старшых навуковых супрацоўнікаў Інстытута гісторыі НАН Рэспублікі Беларусь, кандыдатаў гістарычных навук Л. Дучыц "Старажытны касцюм Беларусі" (па матэрыялах археалагічных даследаванняў) і Э. Зайкоўскага "Народнае мастацтва — важны фактар і кампанент развіцця сучаснай культуры. Балцкія і славянскія элементы ў беларускім народным арнаменце", а таксама даклад аспіранткі кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў БелАМ А. Законнікавай "Традыцыйны геаметрычны арнамент як знакавая сістэма архаічнай свядомасці беларусаў (па арнаментальных матывах традыцыйнага адзення)".

На "круглым стале", які падвёў вынікі канферэнцыі, былі прыняты наступныя рашэнні: ухваліць заснаванне лабараторыі касцюма пры БелАМ; стварыць пры гэтай лабараторыі Грамадскую навуковую раду, разам з якой распрацаваць Рэспубліканскую праграму па збіранні, захаванні і даследаванні беларускага касцюма, аб'яднаўшы ўсе навуковыя кадры, якія займаюцца гэтай тэматыкай у розных установах культуры і музеях; лічыць 1998 год "Годам памяці Міхася Раманюка" з нагоды яго 55-гадовага юбілею і правесці ў юбілейны год М. Раманюка не менш дзвюх канферэнцый і выстаў беларускага касцюма; вітаць стварэнне музея імя М. Раманюка пры Беларускім універсітэце культуры.

Падсумоўваючы вынікі двух здзейсненых праектаў у гонар М. Раманюка, можна адзначыць, што той напружаны тэмп жыцця і навуковай дзейнасці, які быў уласцівы вучонаму, падхапілі яго вучні і паплечнікі.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

# НА БЕРАГАХ ЗЭЛЬВЯНКІ



На Беларусі шмат паселішчаў з цікавай гісторыяй, слаўных сваім мінулым. Сённяшняе ж іх жыццё даволі будзённае, правінцыяльнае, нічым, здаецца, непрыкметнае. Напэўна, гэта таму, што мінулае, спрасаванае часам, нібы прайшло не ў стагоддзях, а за некалькі гадоў. І ў такім разе яно цікавае для нас, здаецца насычаным падзеямі.

Такое адчуванне і пры знаёмстве з Зэльвай. Першае ўпамінанне пра яе — у Іпацьеўскім летапісе. У ім значыцца, што Даніла Галіцкі ў 1258 годзе ўзяў Ваўкавыск і накіраваў атрад на чале са сваім сынам Львом на Гродна, а ваяводу Міхаіла — на Зэльву. Так што жыхары гарадскога пасёлка сёлета могуць адзначыць яго 740-гадовы юбілей. Але ён яшчэ старэйшы: стаянкі і магільнікі, выяўленыя на тэрыторыі раёна, сведчаць, што людзі тут жылі чатыры тысячы год таму назад.

Захаваліся архітэктурныя помнікі мінуўшчыны, некаторыя з іх уяўляюць вялікую гістарычную каштоўнасць. Па некаторых звестках, царква, якая існуе і цяпер, пабудаваная па распараджэнні караля Казіміра Ягайлавіча ў 1443 годзе.






У вёсцы Сынкавічы захавалася царква-крэпасць абарончага тыпу. Узведзена яна ў канцы XV — пачатку XVI стагоддзяў. Цагляная, з тоўстымі сценамі, байніцамі, з элементамі готыкі. І сёння яна ўражвае прыхільнікаў даўніны сваёй магутнасцю, суровым выглядам. Царква рэстаўрыруецца.

Зэльва, Зэльвеншчына не раз ператвараліся ў поле баёў. З другой паловы XIII стагоддзя гэты край стараліся заваяваць тэўтонскія рыцары. Прашугалі над краем войны, прычыніўшы яму, яго насельніцтву шмат бяды і шкоды.

Паселішча ўзнікла ў прыгожым і зручным месцы — на беразе хуткаплыннай Зэльвянкі. На скрыжаванні шляхоў з усіх бакоў свету. З розных краін і краёў: Украіны, Варшавы, Кёнігсберга, Вільні, Рыгі, расійскіх губерняў — прыязджалі купцы на кірмаш, адзін з самых вялікіх у Беларусі. Працягваўся ён штогод з 25 жніўня цэлы месяц. Прадаваліся прамысловыя тавары, купляліся сельскагаспадарчыя, жывёла...



Усё гэта ў мінулым. У пэўным сэнсе Зэльве не пашанцавала. Маючы добрыя магчымасці для эканамічнага, культурнага развіцця, яна так і не стала горадам, дамогшыся толькі статуса гарадскога пасёлка.

Цяпер ён — цэнтр раёна, сельская гаспадарка якога спецыялізуецца на раслінаводстве і жывёлагадоўлі. У шэрагу гаспадарак паказчыкі высокія, але і ў іх адчуваецца спад, выкліканы агульным эканамічным крызісам.

За апошнія дзесяцігоддзі пасёлак папрыгажэў, разросся. Выраслі новыя вуліцы, мікраёны. З'явіўся шанс на больш хуткае развіццё. Каля Зэльвы створана адно з вялікіх вадасховішчаў Беларусі. Яно прызначана не толькі для адпачынку і арашэння. Тут запланавана пабудаваць буйную электрастанцыю, што прывядзе да росту пасёлка. Аднак грошай на яе пакуль не хапае.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: пасёлак Зэльва; мемарыял памяці; касцёл Святой Тройцы; вадасховішча ў ваколіцах Зэльвы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## 1998-мы — ГОД АДАМА МІЦКЕВІЧА

# ВЯРТАННЕ БІБЛІЯТЭКІ

Інфармацыю гэту можна было б змясціць у адным радку. Нядаўна ў Мінск з Польшчы вярнулася частка кніг колішняй польскамоўнай бібліятэкі імя Адама Міцкевіча, што на пачатку нашага стагоддзя існавала пры касцёле св. Сымона і Алены (у народзе ён больш вядомы як Чырвоны касцёл). Аднак колькі даваліся прыкласці намаганняў як з беларускага, так і з польскага боку, асабліва пробашчу касцёла Уладзіславу Завальнюку, каб гэтая акцыя, пераказаная адным газетным радком, здзейснілася!

Сама грамадская бібліятэка польскай літаратуры была заснавана ў Мінску роўна дзевяноста гадоў таму, а ў 1920 годзе легіянеры Пілсудскага пры адступленні вывезлі яе з нашай сталіцы. Сёння, пасля стольких войнаў і іншых розных катаклізмаў, цяжка сказаць, колькі і дзе літаратуры з тае бібліятэкі ўвогуле захавалася. Таму, вядома, адбылася перадача Мінску (дакладней — Хрысціянскаму таварыству міласэрнасці, што заснаваны пры Чырвоным касцёле) хутчэй сімвалічнай бібліятэкі імя Адама Міцкевіча. Але гэты "сімвал" вельмі знамянальны (з'явіўся знакам добрай волі з польскага боку), своечасовы (ажыццявіўся ў Год Міцкевіча) і надта важкі: перададзена 6 270 кніг духоўнай і свецкай літаратуры, значнай часткі якіх няма нават у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Пра ўсё гэта гаварылася на афіцыйнай цырымоніі вяртання бібліятэкі — у выступленнях прэзідэнта Беластока пана Кшыштафа Юргеля, дэпутата Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Уладзіміра Крука, айца Уладзіслава, прафесара Адама Мальдзіса, працаўнікоў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Любові Канаплянік і Браніслава Дашкевіча...

Бібліятэка імя Адама Міцкевіча, на радасць усім беларускім аматарам польскамоўнай літаратуры, вярнулася ў Мінск, у дольны касцёл св. Сымона і Алены. Чакаецца яе ўрачыстае адкрыццё.

**Вячаслаў РАГОЙША.**
**("Звязда").**

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

* * *

**Чакаў зімы...**
**Ды ўсё дарма...**
**Два месяцы мінула...**
**Зіма!**
**Ды дзе ж**
**яна,**
**зіма!!**
**Зноў**
**бокам**
**абмінула.**
**Ужо і люты**
**надышоў...**
**Ужо і люты**
**адышоў...**
**Зямля**
**вясну**
**чакае...**
**Мне кажуць,**
**што зіма прайшла...**
**Прайшла!**
**Калі ж яна**
**была!**
**Хіба ж яна**
**такая!!**

**Мікола АЛТУХОЎ**

**ЗІМОВЫ СОН**

**Прыціхлі бярозы,**
**Каб у гушчары**
**Заснулі стракозы,**
**Жукі, камары.**

**Ля рэчкі прыгожай**
**Пад шолах сасны**
**Гарэзлівы вожык**
**Заснуў да вясны.**

**Ад люці мяцеліц,**
**Ад шуму пургі**
**Іх світкаю белай**
**Прыкрыюць снягі.**

**Ніхто не разбудзіць**
**Лясных жыхароў:**
**Ні птушкі, ні людзі,**
**Ні трэск маразоў.**

**Калі ж завітае**
**Вясна у лясок,**
**Разбудзіць ручай іх,**
**Як школьны званок.**

## ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ!

***Радыёстанцыя "Беларусь" паведамляе, што сёлета жыхары еўрапейскіх краін могуць слухаць нас штодзённа ад 5-й да 7-й гадзіны паводле грынвіцкага часу і ад 20-й да 22-й гадзіны (таксама паводле грынвіцкага часу) на частотах 1170, 7105 і 7210 кілагерц. У нашых штодзённых праграмах вы можаце пачуць весткі з Бацькаўшчыны, каментарыі і гутаркі на актуальныя тэмы, інтэрв'ю, рэпартажы, нарысы, у якіх распавядаецца пра розныя аспекты жыцця Беларусі. Знаёмім і з музычнымі навінамі. Нашы перадачы гучаць на беларускай, рускай і нямецкай мовах. Мы рады таксама паведаміць, што сёлета радыёстанцыя "Беларусь" распачала вяшчанне на англійскай мове. Калі ў вас ёсць якія-небудзь пытанні, пажаданні, пішыце нам на адрас:*** **Рэспубліка Беларусь, 220807, Мінск, вуліца Чырвоная, 4, радыёстанцыя "Беларусь". Рэдактар англійскай праграмы — Ірына Палажэнцава (тэлефон: 172-39 58 31, факс: 172-36 66 43).**

**Рэдактар**
**Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;**
**Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;**
**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**



**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».**
**(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).**
**Тыраж 1 832 экз. Індэкс 63854. Зак. 189.**
**Падпісана да друку 9. 2. 1998 г. у 12.00.**
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**